PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 35 (1946) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 29 ЖНІЎНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ТОЕ-СЁЕ ПЕРАД ВЫБАРАМІ

Перадвыбарчыя гонкі пачаліся. Нават і ў нашым беластоцкім запаведніку пасыпаліся спіскі партыяў і груповак, якім хочацца засесці ў нябалга платных сенатарскіх і пасольскіх крэслах. Вядома, месц усім не хопіць ды для выбарчай арыфметыкі прадстаўнікам палітычных плыняў трэба загарлапаніць і аб патрэбах беларускага грамадства. Найлепей, аднак, змясціць у сваім спіску любую асобу з прозвішчам на -ук, або адназначным імем: Мікола, Сярожа, Базыль. Паглядзіце, якімі патрэбнымі і важнымі стаемся на нейкі час. Нас бачаць і даценьваюць, і толькі Сакрат Яновіч у сваёй публіцыстыцы звыкся наракаць на наш комплекс непаўнацэннасці!

А ўвогуле сутнасць беларускага грамадства і ейнага існавання ў кожнай сферы жыцця - палітычнай, гаспадарчай, культурнай - можна звесці да аднаго магічнага слова КАБ. Гэтае слова выступае амаль заўсёды ў гутарках, якія вядзем наконт нашай аўтахтоннай стыхіі. Для прыкладу, прачытайце класіку такога наракання: "КАБ не пасіўнасць нашых людзей, то мы зрабілі б о-го-го, або і яшчэ больш", "КАБ не аб'ектыўныя прычыны, а затым неспрыяльныя ўмовы, то нашае школьніцтва і культура проста квітнелі б" (хіба як грушы на вярбе), "КАБ мы мелі грошы..." - тутака няхай кожны чытач "Нівы" падумае, а мо найлепей напіша ў рэдакцыю, на што растраціў бы ён грошы, прызначаныя на беларускую справу.

Словам-абрэвіятурай КАБ мы зможам і вызначыць сацыялагічную структуру нашага падзеленага грамадства. Вось перад Вамі, шаноўныя чытачы і праніклівыя палітыкі, тайна тайнаў беларусаў Беласточчыны, якую згодна з усімі прынятымі канонамі сенсацыйных кінафільмаў назавем крыптанімам "Беларус у далоні". Для найбольш нецярплівых ужо і расшыфроўваем асноўныя значэнні пададзенай абрэвіятуры:

КАБ - гэта: Клуб ананімных беларусаў, Клуб афіцыйных беларусаў, Клуб апалячаных (або абруселых) беларусаў, Клуб аўтахтонаў (ці абарыгенаў) Беласточчыны, Клуб арганізацый беларускіх, Клуб аўтараў "Белавежы", Клуб (ці кафедра) Алеся Барскага, Клуб аматараў "Басовішча", Клуб агентаў беларускіх, Клуб абанкруціўшыхся беларусаў, Клуб алкаголікаў беларускіх і гэтак далей.

Найбольш вялікай групай сярод нас з'яўляецца Клуб ананімных белару-

☞ Працяг на стар. 4



*Няма спешкі — хмары не гоняць.* **Фота А. Вярбіцкага**

## НАША ВЁСКА І ЕЎРОПА

Сапраўды, цяжка цяпер з выказванняў розных „аўтарытэтаў" зарыентавацца, ці мы яшчэ ідзем у Еўропу, ці ўжо дайшлі. Розныя сустракаюцца меркаванні на гэтую тэму. Справа ў тым, што ніколі не было аднае Еўропы, хаця безупынна розныя палітыкі прабавалі яе аб'яднаць, накінуць нейкую адну ідэалагічную уніформу і палітычны парадак. У апошніх двух стагоддзях яднанне кантынента амаль удалося Напалеону, пасля Гітлеру, ды і Сталін мог пахваліцца не малым поспехам.

У сапраўднасці ўсе трывалыя падзелы — гэта не толькі эфект дзейнасці такіх ці іншых фюрэраў. Іх крыніцы заўсёды былі звязаны з гаспадарчымі і грамадскімі пераўтварэннямі. Першы трывалы падзел Еўропы адбыўся ў XVI стагоддзі. На захад ад ракі Эльбы пачынаўся дэмантаж феадальных структураў, узрастала значэнне мяшчанства і гарадоў у гаспадарчым жыцці паасобных дзяржаў. На Усходзе ў той час змены ішлі акурат у адваротным напрамку — пашыраўся абсяг паншчыны, мяшчанства пазбаўлялася не толькі палітычных правоў, але таксама свабоды гаспадарчай дзейнасці.

На працягу наступных стагоддзяў паўсталі дзве Еўропы, якія розніліся паміж сабой культурай, рэлігіяй, гаспадарчай сістэмай і грамадскай структурай. Філасофіяй мяшчанства быў культ працы і ашчаднасці, філасофіяй вяскоўцаў — нягледзячы на гэта, ці былі яны арыстакратамі, ці прыгоннымі халопамі — быў культ абраднасці. Сяляне бралі прыклад з паноў і стараліся паводзіць сябе так, як і яны. Навучыліся бараніць свой „гонар" — праўда, не шабляй, а толькі кулаком ці касою, але ўсё-такі. Навучыліся хутчэй выдаваць грошы, чым іх зарабляць. Дастаткова пагледзець, як сёння арганізуе вяселле багаты немец і бедны паляк. Першы ладзіць двухгадзінны прыём на 5-10 асоб, другі — пазычае грошы, запрашае 100—150 чалавек і два дні спацелы натоўп у смуродзе таннай гарэлкі, цыгарэтнага дыму, вэнджанай каўбасы і пад гукі ідыятычнай музыкі будзе перажываць стан святасці, а некаторыя нават і экстазу.

Сёння ўсе грамадскія групоўкі паводзяць сябе гэтаксама, як „высоканароджаныя" ў XVIII стагоддзі. Найважнейшае, што суседзі, сваякі, знаёмыя скажуць: „Усё было нармальна". Было што піць і есці, хтосьці заснуў галавой у талерцы з варанай капустай, хтосьці адпачываў пад сталом, але з гальштукам, завязаным на шыі як трэба і ў снежнабелай кашулі, мытай дзень раней у парашку „Ariel", хтосьці камусьці нос разбіў... — сапраўды, нармальна.

Цікава, што падумаў бы англічанін ці швед, калі б пабачыў нашыя прыёмы пасля пахавання нябожчыка?! Нягледзячы на геаграфію, мы з нашай штодзённай абраднасцю, рытуальнымі прыёмамі, ірацыянальным падыходам да эканомікі маем больш супольнага з узбекамі, чым з немцамі ці галандцамі.

Розніцу паміж усходам і захадам Еўропы відаць не толькі ў галіне эканоміі і палітыкі, але, перш за ўсё, у галіне культуры і рэлігіі. Калі прыглядзецца да беларускай, расейскай, польскай ці мадзьярскай літаратуры, то амаль усе яе стваральнікі былі вяскоўцамі — няважна, што найчасцей арыстакратычнага паходжання, але ўсё адно феадальнай традыцыі. Змест гэтай літаратуры адлюстроўвае псіхалогію пана, афіцэра, парабка, вельмі рэдка фабрыканта, гандляра, рабочага, гарадскога люмпена. Рэйман, які хацеў паказаць польскі плебс у канцы XIX стагоддзя, выдатна адлю-

☞ Працяг на стар. 4

## СТАРШЫНЯ ДАГУЛЯЎСЯ!

Пра намаганні намесніка старшыні Гарадской рады Бельска Яна Радкевіча адклікаць дырэктараў Гарадской бібліятэкі Веслава Цеслю і Бельскага дома культуры Сяргея Лукашука я ўжо пісаў („Гульні дырэктарамі", „Ніва", н-р 31). Хаця нямала сіл прыклаў ён, каб здзейсніць задуманае, нічога ў яго не атрымліваецца ўжо ад восені мінулага года. Здавалася, што гэтая справа закончылася на сесіі Рады 5 ліпеня, але ж не... На наступным пасяджэнні — 11 жніўня — Ян Радкевіч зноў вярнуўся да таго ж пытання.

„Каб гэтай справе прысвяціць належную ўвагу, трэба на сесіі (на маю думку) галасаваць пайменна, што нічыйго гонару абразіць не павінна. Нягледзячы на тое, якое будзе рашэнне Рады, станоўчае ці адмоўнае, справа ўрэшце будзе закончана. Рада і ўвесь горад будуць ведаць, хто ёсць хто, хто каго падтрымлівае, прыкрывае і т. д."

Далей у афіцыйным лісце пайшлі намёкі на карупцыю, тайныя дамовы і таму падобныя „цёмныя справы", якія „абураюць грамадскасць Бельска-Падляшскага". Гэты ліст спадар Радкевіч накіраваў не ўсім радным, толькі тым „з салідарніцкай групы". У сувязі з тым Васіль Ляшчынскі, радны ад Беларускага выбарчага камітэта, спытаў, ці ён з калегамі мае пакінуць залу. Калі б беларускія радныя выйшлі з залы, не было б кворуму і Рада не магла б прыняць ніякай пастановы.

Аднак усе засталіся на месцы і прагаласавалі, каб запрапанаваны віцэ-старшынёй Радкевічам пункт не ўводзіць у парадак дня. Тады радны Арсень Арцысевіч (БВК) на тое месца запрапанаваў іншы: адклікаць Яна Радкевіча з функцыі намесніка старшыні Гарадской рады Бельска. І гэты пункт прайшоў.

А потым, у тайным галасаванні, зверг-нулі самога Радкевіча. Супраць яго прагаласавала нават адна асоба з Грамадзянскага камітэта „Салідарнасць".

„Прыкра мне, што сярод радных з „Салідарнасці" знайшоўся здраднік, — пракаментаваў гэта Радкевіч, — я перакананы аднак, што ягонае сумленне не пакіне яго ў спакоі. Сёння мне так запацілі за маю бескарыснасць, бескампраміснасць, за арганізацыю патрыятычных мерапрыемстваў у горадзе. Але тое, што мяне адклікалі, не перашкодзіць мне давесці справу вышэй памянёных дырэктараў да канца. А калі з гэтым скончу, дабяруся і да вас, пан магістр!"

Паабяцаў гэта ён Васілю Ляшчынскаму, дырэктару Пачатковай школы н-р 3.

**ак**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Wydawca „Gazety Wyborczej" spółka Agora-Gazeta uzyskała od dwóch zachodnich banków długoterminowy kredyt 8 mln dolarów na sfinansowanie nowej drukarni w Warszawie. Łącznie inwestycja ma kosztować blisko 12 mln dolarów. (...) „Gazeta" będzie drukowana na nowoczesnym offsecie rotacyjnym Colora znanej niemieckiej firmy Koenig & Bauer, z szybkością 70 tys. egzemplarzy po 64 strony obecnego formatu na godzinę, w tym 18 stron w kolorze.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 186)*

Аб чым такія занатоўкі нагадваюць нам, журналістам „Нівы"? Вы правільна ўгадалі — аб беларускай друкарні, пра якую шмат было шуму напрыканцы 80-х гадоў (у БГКТ), і аб беларускіх камп'ютэрах, пра якія таксама шмат было шуму ў пачатку 90-х гадоў (у БГКТ і ў „Ніве"). Нашым чытачам, пэўна, ужо прыелася чытаць пра змарнаваны шанц паставіць выдавецкую справу ў беларускім асяроддзі на належным узроўні. А нам, з другога боку, ужо прыелася пісаць пра добрыя намеры і планы, якія забываюцца зараз жа пасля іхніх ухваленняў. А таму больш істотным падаецца пісаць пра змарнаваныя шанцы і праявы (дэз)арганізацыйнага ідыятызму; карысці ад гэтага можа не быць ніякай, але застаецца маральная сатысфакцыя, што чорнае называлася чорным, а белае — белым. Гэта, у рэшце рэшт, адзіны несумненны здабытак журналістыкі посткамуністычнага часу — можна дурня назваць дурнем, не аглядаючыся на тое, што той дурань выступае з высокіх трыбун.

* * *

*Wieczorem na dużej scenie (festiwalu rockowego w Jarocinie - red.) Jarek Janiszewski („Bielizna", konferansjer) propagował bezpieczną miłość. Malolatowi nałożył prezerwatywę na głowę. Na scenę zapraszał dziewczyny, które obnażały piersi. Nawoływał do chłopaków: teraz wasze członki podniosą się. Będzie pełen czad! Przytulcie się do siebie panienki. Sprawdźcie, będą mokre... I tak trzymać! Trzymajcie się razem. Razem uprawiajcie miłość. Bezpieczną! (...) Ostatniego dnia, wieczorem Kuba Wojewódzki — reżyser i dyrektor festiwalu wołał ze sceny (...): pierdolić przemoc. Pierdolić tych, którzy rozwalili małą scenę. Chwilę potem Wańka Wstańka dodał: ma być spokój, bo będzie się nam chujowo grało, a wy będziecię sie chujowo bawić.*

*Kurwami i chujami rzucano podczas festiwalu sporo.*

*(Kurier Poranny, nr 155)*

*

*Budżet organizacyjny tegorocznego Jarocina wyniósł 3 mld 600 mln zł. By go pokryć, karnety na koncerty kosztowały aż 200 tys. zł.*

*(Kurier Podlaski, nr 156)*

Бюджэт сёлетняга „Басовішча" — 120 мільёнаў зл. А канцэрты былі дармовыя. У гэтым, мабыць, і заключаецца трагізм беларускай культуры — яна дармовая. Бо ўсё іншае ў нас, як і ў палякаў: і прэзерватывы накладаць умеем, і грудзі ў нашых дзяўчат прыгожыя, і członki падымаюцца.

* * *

*Z siedziby Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku złodzieje wynieśli komputery. Przez ostatni rok komputery były kością niezgody między „młodymi" i „starymi" Białorusinami. Teraz wszyscy skłóceni powinni odetchnąć z ulgą.*

*O czym teraz będą pisać redaktorzy „Niwy"?*

*(Przegląd Prawosławny, nr 8)*

Odpowiadamy: o karierze parlamentarnej brata Wilhelma.

* * *

*Trudno uwierzyć, że można związać koniec z końcem, wydając „Testamenty ewangelików reformowanych w Wielkim Księstwie Litewskim" czy pracę habilitacyjną „Emiraty wahhabickie. Z dziejów Arabii w latach 1745-1932". A jednak istniejąca od trzech lat firma „Semper" rozwija się znakomicie. Firma zatrudnia na etatach trzy osoby oraz dwadzieścia osób na zleceniach. (...) Książki z założenia niedochodowe osiągają nakład 500 egzemplarzy, choć nie od razu udaje się wszystko sprzedać. Jak twierdzi wydawca, różnica między kosztem wydania 300 czy 500 egzemplarzy jest niewielka, a ponadczasową pracę można sprzedawać przez lata.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 187)*

Фактычна, цяжка ў гэта паверыць. Але калі так яно ёсць, дык і для беларускай літаратуры сітуацыя не выглядае зусім трагічна. Важна толькі, каб яна была ponadczasowa.

* * *

*ВІЗІТ ТЫДНЯ*

***Беларусь наведала дэлегацыя Усекітайскага Сходу нацыянальных прадстаўнікоў. У Кітаі, па словах гасцей, паспяхова ажыццяўляюцца рэформы на шляху да стварэння „Сацыялістычнай рынкавай эканомікі" і нам, беларусам, ёсць чаму ў іх павучыцца.***

*ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

***Пастановай Саўміна Рэспублікі Беларусь былы старшыня Прэзідыума ВС БССР, былы старшыня камісіі па нацыянальных адносінах і нацыянальнай палітыцы ВС БССР, нядаўні старшыня камітэта геадэзіі пры Саўміне Рэспублікі Беларусь Г. С. Таразевіч прызначаны першым намеснікам міністра замежных спраў рэспублікі. Прызначэнне гэтае не стала сенсацыйным...***

*(ЛіМ, н-р 31)*

Беларусь, відаць, яшчэ больш узмоцніць тэпм пабудовы сацыялістычнага грамадства. Што ж, нічога нам не застаецца, як павіншаваць. Поздравляем, товарищи.

* * *

*TOWARZYSKIE*

*Nasze dziewczyny są Twoje.*
*Miłe Panie dla Ciebie.*
*Samotne panie w wieku 18-35 lat. Partnerzy amerykańscy w celach matrymonialnych czekają Was.*
*Wynajmę mieszkanie panienkom prawosławnym. Po poznaniu możliwość zawarcia ślubu (kawaler).*

*(Kurier Poranny, nr 145, z rubryki ogłoszeń)*

## З мінулага тыдня

Рознагалоссе падчас пасяджэння ўрада выклікалі **„Асноўныя прынцыпы палітыкі ў галіне культуры"**, асабліва спосаб трактоўкі этнічных меншасцяў у Польшчы. Паводле „Gazety Krakowskiej" міністр культуры **Ежы Гураль** прапанаваў увесці прынцып **„узаемнасці"**, а падтрымаў яго ў гэтым віцэ-прэм'ер **Генрык Гарышэўскі**. Пратэставалі міністры: **Яцэк Курань, Ян М. Ракіта і Кпыштаф Скубішэўскі**. У канцы з дакумента выкраслілі прынцып „узаемнасці" і вырашылі **прытрымоўвацца міжнародных стандартаў у адносінах да этнічных меншасцяў**.

**Мячэць**, якая згарэла ў мясцовасці Тролхатан у заходняй Швецыі, была падпалена, — мяркуе шведская паліцыя. Пажар — чарговая праява ўзрастаючай варожасці паміж мясцовым грамадствам, нацыяналістычнымі правымі групоўкамі ды скінамі і чужаземцамі, галоўным чынам мусульманскім насельніцтвам. Гаспадарчы крызіс і адкрытая іміграцыйная палітыка, між іншым, рашэнне аб прыняцці 40 тысяч мусульман з Босніі, падмацоўваюць толькі антыіміграцыйныя настроі. Лідэр папулісцкай партыі „Новая дэмакратыя" **Ян Вахтмайстэр** запатрабаваў правесці агульнанародны рэферэндум у справе шведскай іміграцыйнай палітыкі.

**Расея спыніла пастаўку газу ў Беларусь**, прабуючы такім чынам сыскаць 110 млрд. рублёў даўгоў за ранейшыя пастаўкі. Галоўная прычына беларускіх клопатаў — гэта тое, што Расея не хоча прадаваць паліва за „зайчыкі", а толькі за свае рублі. Пакуль што, Беларусь сабрала 20 млрд. рублёў. Замест 31 млн. кубаметраў газу ў суткі Расея пастаўляе зараз толькі 17 млн. кубаметраў.

**Халера, дыфтэрыт, чума, тыф, малярыя, трыхінелёз** — смяротныя хваробы, якія, здавалася, былі ўжо знішчаны чалавекам, зноў штораз часцей паяўляюцца на тэрыторыі былога СССР. Заходнія пасольствы раяць сваім грамадзянам, якія выязджаюць у краіны СНД, рабіць ахоўныя прышчэпкі, а турыстычныя арганізацыі адмаўляюцца пасылаць туды экскурсіі.

**Дацкая фірма „Абрахамсон-энд-Нілсен"** з горада Аргус намерваецца пабудаваць у Міхалове ачышчальню сцёкаў, якая будзе абслугоўваць восем жылых блокаў. Кошт пабудовы спецыялісты ацэньваюць на 2,6 млрд. зл., а Управа гміны Міхалова заплаціць толькі 20 працэнтаў ад гэтай сумы. Рэшту заплаціць дацкае агенцтва натуральнага асяроддзя ў рамках папулярызацыі сучасных экалагічных паслуг.

**У Гайнаўцы закончыўся XVIII Агульнапольскі мэблевы пленэр**, прысвечаны праектаванню мэблі для дзяцей-інвалідаў. Арганізатар, мастацкая група „Гайнаўка", ужо дзесяць гадоў займаецца праектаваннем мэблі і цацак для маленькіх інвалідаў, а яе працы экспанаваліся на выставах у Варшаве і Месіне на Сіцыліі. Сёлетняму мерапрыемству спадарожнічаў II дзіцячы мастацкі пленэр.

У Мельніку адбыліся **„III Музычныя дыялогі над Бугам"**, падчас якіх выступалі мясцовыя і замежныя калектывы. Заграніцу на імпрэзе прадстаўлялі **беларускі калектыў „Нёман" з Гродна** і калектыў з Аўстрыі.

Невядомыя злачынцы ўкралі ахвяраванні, прынесеныя вернікамі да **іконы Супрасльскай Божай Маці** з манастырскай царквы ў Супраслі. Зладзеі забралі, між іншым, крыжыкі, ланцужкі і медальёны вартасцю ў 35 мільёнаў злотых.

**Каля Высокага-Мазавецкага** паліцыя спыніла аўтамашыну „Аўдзі" з трыма рэкеціpамі (двое расейцаў і ўкраінец). Раней злачынцы забралі ў двух беларусаў, якія гандлявалі на беластоцкім базары, шэсць бензапілаў і шаснаццаць мільёнаў злотых.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- У Міхалове штораз больш крамаў з алкаголем.
- На танцы ў карчму ў Гайнаўцы.
- Кур'ёзы палітычнага жыцця ў Польшчы.
- Сакрат Яновіч на рускім базары.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### НАС АБ'ЯДНАЛА „ПІВАВА" ІМЯ

Новая сіла з'явілася днямі на палітычнай арэне Беларусі. У менскім Доме літаратара адбыўся ўстаноўчы з'езд партыі аматараў піва (ПАП). Пад несур'ёзнай, здавалася б, назвай хаваюцца даволі вялікія амбіцыі. Арыентуючыся на вопыт суседняй Польшчы, беларускія аматары піва мяркуюць на бліжэйшых парламенцкіх выбарах атрымаць у Вярхоўным Савеце Беларусі некалькі месцаў, і нават стварыць сваю фракцыю.

### БОМБА ДЛЯ КЕБІЧА?

Падобна на тое, што і да беларускай сталіцы дакацілася хваля тэрарызму. Нядаўна ў самым цэнтры Менска, непадалёку ад Дома урада адбыўся выбух. Дзякуючы шчаслівай выпадковасці, ніхто з людзей не пацярпеў, хаця выбух быў даволі моцны. У бліжэйшых будынках нават павылятала шкло. На месцы, дзе знаходзілася бомба, засталася яма глыбінёй каля паўметра і дыяметрам амаль метр.

Пакуль што ніводная тэрарыстычная ці злачынная групоўка не ўзяла на сябе адказнасці за гэты выбух. Незразумелы і сэнс гэтай акцыі. Магчыма, штосьці стане вядома ў хуткім часе. Бо за справу гэту ўзяліся непасрэдна супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

### ВОЎК НЕ КУСАЕ ВАЎКА?

На мінулым тыдні адбылося пахаванне аднаго з аўтарытэтаў менскай арганізаванай злачыннасці „Боцмана", па пашпарту — Сяргея Шырокага. Вярнуўшыся чатыры месяцы назад з месцаў не надта аддаленых, „Боцман" так і не паспеў адчуць асалоду ад вольнага паветра, падоранага сябрамі аўтамабіля „Жыгулі" і набытай за некалькі дзён да смерці трохпакаёвай кватэры. У адной з вёсак Менскага раёна ён быў літаральна расстраляны невядомым забойцам, а яго жонка — паранена.

Улічваючы, што загінуўшы кантраляваў са сваімі „калегамі" чорны валютны рынак, можна меркаваць аб сувязі яго гібелі з міжусобіцай канкурэнтных груповак.

### АПАЗІЦЫЯ НЕ ДРЭМЛЕ

З карысцю для рэспублікі праводзяць вакацыйныя дні дэпутаты апазіцыі Беларускага народнага фронту. На пасяджэнні парламенцкай апазіцыі падрыхтавана заява аб адказнасці кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларусі за правал фінансавай і грашовай палітыкі рэспублікі. Прысутныя выказаліся ў падтрымку акцыі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, якая праводзіць збор подпісаў працоўных за датэрміновыя выбары Вярхоўнага Савета, лічачы яе фактычным працягам незаконна забароненага ў 1992 годзе рэферэндуму.

### ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ...

Ва ўмовах securing нованароджанай дэмакратыі ўсё цяжэй выглядаць на належным ўзроўні па-савецку някемлівым прадстаўнікам афіцыйных улад. 4 жніўня зусім ужо быў згадзіўся выканкам Менскага гарсавета дазволіць правядзенне мітынгу-шэсця і канцэрта падчас святкавання Беларускім аб'яднаннем вайскоўцаў і Беларускім народным фронтам Дня беларускай вайсковай славы. А літаральна праз тыдзень ад свайго ж рашэння адмовіўся, даўшы згоду толькі на „музычна-літаратурную праграму" на плошчы ля Тэатра оперы і балета.

Хто ведае, якіх сюрпрызаў чакаць яшчэ ад добрасумленных чыноўнікаў да дня святкавання — 8 верасня...

### МАРЫЦЬ НЕ ШКОДНА

Як стала вядома карэспандэнту „Нівы" з урадавых крыніц, Савет Міністраў рэспублікі сумесна з Нацыянальным банкам Беларусі падрыхтаваў праект пастановы аб увядзенні ў пачатку верасня гэтага года беларускай нацыянальнай валюты.

Апрача таго, у выпадку прыняцця дадзенага рашэння плануецца забараніць гандаль таварамі за „небеларускія" грошы. Гэта значыць, што ўладальнікам валютных магазінаў давядзецца або мяняць „доларавыя" цэннікі на „зайчыкавыя", або ўвогуле зачыняць свае крамы.

Зрэшты, гэты дакумент падрыхтаваны ўрадам толькі на самы крайні выпадак, калі Расея канчаткова „выкіне" Беларусь з рублёвай зоны. А пакуль кабінет міністраў рэспублікі цешыць сябе надзеяй, што „старэйшы брат", колькі б гэта яму ні каштавала, не кіне братоў-беларусаў у бядзе. Наіўныя людзі!

### НЯПРОШАНЫЯ ГОСЦІ

Вось ужо сапраўды няма дабра без ліха. Беларусь, як адну з самых спакойных і стабільных рэспублік былога СССР літаральна навадніла хваля бежанцаў. Толькі за апошнія паўгода ў рэспубліку прыехалі 5 тысяч бежанцаў — у асноўным з Паўночнага Каўказа, Малдовы і Таджыкістана. Апошнім часам сярод нашых землякоў шмат жадаючых вярнуцца на Беларусь з краін Балтыі. Апрача таго, сёння ў рэспубліцы фактычна ў становішчы бежанцаў жывуць 2,5 тысяч афганцаў, эфіопаў, іранцаў і іракцаў, каля адной тысячы в'етнамцаў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ТАЯМНІЦА БЕЛАВЕЖЫ

*Частка II*

**ЛЕГЕНДА**

Легенду гэтую пачуў я ад некалькіх старажылаў. Спачатку лічыў я яе не чым іншым, як толькі легендай. Гартаючы розныя пісьмовыя крыніцы, нідзе я не мог натрапіць на след сяла, якое называлася *Крыштапово* і існавала на Белавежскай паляне. А жыхароў таго ж сяла менавіта, белавежскія старажылы лічаць першымі... белавежцамі! Але паслухайма легенду. Расказвае 87-гадовая жыхарка Падалян II (да замужжа - жыхарка Шпаковічаў, зараз - усходняй часткі Стачка), Надзея Руско.

"Сяло Крыштапово размяшчалася менш-больш на ўзвышшы, на якім знаходзіцца цяпер Вайцяхоўка і Цэнтура.

Аднойчы адзін крыштаповец пайшоў у лес. Зайшоў ужо далёка, калі на дарозе сустрэў чалавека, які ехаў фурманкай. Незнаёмы спытаў крыштапоўца, куды ён ідзе, потым папрасіў прысесціся на воз. Паміж імі пачалася размова.

- Я бачу, што ты добры чалавек, - сказаў у нейкі момант незнаёмы. - Тады я табе штосьці выяўлю. Калі вернешся ў сваю вёску, не пі вады з калодзежа. Я вязу ў мяшку заразу і крыху выпусціў яе ў вас.

- То ты такі! - усклікнуў крыштаповец. - Хочаш, каб людзі ўміралі!

Саскочыў ён з воза, схапіў кол і давай абкладваць ім па галаве незнаёмца ды лаяць яго. Невядома, забіў ён яго ці не, але той у апошні момант развязаў мяшок і выпусціў заразу.

Крыштаповец, вярнуўшыся ў вёску, расказаў аб здарэнні. І сталася! Неўзабаве чума пачала душыць жыхароў. Жывыя не паспявалі хаваць мёртвых. Нябожчыкаў закопвалі ў лесе, побач таго месца, у якім потым узнікла сяло *Крыжэ*.

Тыя, якія яшчэ не захварэлі, пачалі думаць, як пераадолець чуму. Вырашылі, што найлепш будзе, калі спаляць сяло і перасяляцца ў іншае месца. Гэтак і зрабілі. А было гэта амаль трыста гадоў таму.

Дакладна невядома, куды пайшлі жыць уцалелыя. Адны кажуць, што пасяліліся яны недзе ўздоўж рэчкі, якую сёння называюць *Злота*. Другія - што знайшлі сабе месца ва ўрочышчы *Стачок* і далі пачатак вёсцы з такой жа назвай".

- Легенду гэту, - кажа Надзея Руско, - я пачула ад свайго дзядулі, Васіля Шпаковіча. Ён мне, тады малой дзяўчынцы, расказваў яе яшчэ пры цары Мікалаю II.

Аднойчы зімовым вечарам мы з сябрам, лекарам Сяргеем Тарасевічам, завялі дыскусію наконт легенды і дайшлі да вываду, што яна мае ўсе прыкметы праўдападобнасці.

- Эпідэмія, - сцвярджае Сяргей, - абумоўлена трыма рэчамі: крыніцай заражэння, дарогай перадачы ўзбуджальнікаў ды існаваннем уражлівай асобіны. Усе гэтыя фактары прысутнічалі ў здарэнні, пра якое расказала Надзея Руско. Некалі людзі верылі, што заразу можна было схапіць у мяшок і вывезці яе з нейкага населенага месца, у якім яна паявілася. Дык, не ўсведамлялі сабе, што такім чынам пераносілі яе далей. Той крыштаповец, кантактуючыся з чалавекам, які несумненна быў у заражаным месцы, сам набраўся хваробы і прынёс яе ў сваю вёску. Ён жа і стаў адной з крыніц заражэння (другая крыніца - заражаны калодзеж).

Пастанавілі мы з сябрам пашукаць слядоў, якія б наглядна пацвердзілі пачутую гісторыю. Трыста гадоў - гэта ж зноў не такі адлеглы перыяд! Апрача мяне і Сяргея, у "разведачную групу" ахвотна ўступілі Барыс Руско і Георгій Валкавыцкі.

*(заканчэнне ў наступным нумары)*

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота Эрнеста Валкавыцкага**



*Броўская дарога — пры ёй стаіць крыж, пастаўлены на памятку існавання Крыштапова.*

# АДКАЗ ЖАРТАМ

Паважаны спадар Панфілюк, чаго Вы ад мяне хочаце? Адкажыце адкрыта! Думаў, што наша справа скончылася, мы ж выпілі піва на згоду і прабачылі сабе. Аказваецца, аднак, што не. Вы чагосьці шукаеце, калупаючыся ў даўно абмеркаваных справах. Не хацеў я цяпер адказваць, бо выглядае гэта на сварку вясковых жанчын за тое, якая верх возьме. Падумаў аднак, што яшчэ раз адпішу, але ў далейшым, ведайце, адказу не будзе. Заўсёды прыгадваеце, якія Вы добрыя. Не пярэчу - дзякуй Богу, яшчэ добрыя людзі не звяліся. Адным з іх з'яўляецеся Вы - чалавек добры, шанаваны, сумленны і адданы беларускай справе. Дай, Бог, каб Вы і надалей такім асталіся. Гэтаксама напісалі пра Вас і Вашы сведкі, людзі аўтарытэтныя, і я справу прайграў. За гэта не гневаюся. Здзіўляе аднак, што Вы ўпікаеце мяне за тое, што я да шаптухі ездзіў. Так, ездзіў, толькі не сам, на вуліцы Вы мяне спаткалі. Калі б нават гэта сталася і ў хаце знахаркі, не саромеўся б. Бо як бяда чалавека спаткае, то ён усюды кідаецца. У маёй мясцовасці шаптух няма і мусіў ехаць у Вашую, дзе, на сваё няшчасце, Вас спаткаў. Калі трэба будзе, то і яшчэ паеду. Закідваеце мне таксама камуністычныя погляды. А што ж тут дзіўнага? Нас жа паўстагоддзя гэтаму вучылі, дзе толькі далося: пісалі, чыталі, гаварылі, паказвалі. Штосьці з гэтага асталося і пазбыцца яго не так лёгка. Трэба быць Вамі, каб адразу адмяніцца, пераходзячы ў новую сістэму. Хачу Вас, у сувязі з гэтым, намовіць заняцца актуальнымі праблемамі. Ідуць выбары, дык кандыдуйце ў паслы або ў сенатары. Абавязкова Вас падтрымаю. А калі выйграеце, там спаткаеце камуністаў! І погляды камуністычныя на кожным кроку. Во, тады будзеце мець работу! А з мяне камуніста ўжо не зробіце, асабліва пасля артыкула З. Пазняка.

**ГРЫША МАРОЗ**

## КЛЯШЧЭЛІ ГОРАДАМ?

Гмінная рада ў Кляшчэлях з першага свайго пасяджэння ўздымала пытанне вяртання мясцовасці гарадскіх правоў. Старанні гэтыя былі запачаткаваны два гады таму. І вось 5 жніўня гэтага года з'явілася ў Кляшчэлях урадавая камісія, якая і мае вырашыць - будуць Кляшчэлі зноў горадам, ці не. Рашэнне ў гэтай справе мае быць прынята ў верасні гэтага года, калі збярэцца ў Варшаве камісія ў поўным яе складзе. У Кляшчэлі прыязджала толькі рабочая частка згаданай камісіі.

- Маем вялікую гарадскую традыцыю - кажа войт гміны Аляксандр Сяліцкі. - З 1523 года да 1950 Кляшчэлі былі горадам. У даны момант існуюць спрыяльныя ўмовы дзеля таго, каб мясцовасці гэты статус вярнуць.

У Кляшчэлях жыве цяпер каля 1800 людзей, мясцовасць не мае ніякай прамысловасці. На пытанне, ці мясцовасць можа стаць горадам толькі з увагі на гістарычную традыцыю, войт адказаў, што неабавязкова абшар, на якім распалажаныя Кляшчэлі мусіць быць насаджаны прамысловасцю. Ёсць яшчэ і іншыя якасці, сказаў, якія могуць стаць імпульсам для развіцця гарадскога асяродка - маем жа вялікія абшары лясоў, чыстае паветра і ваду. Гэта - таксама багацце, якое належыць Кляшчэлям і ўсёй гміне. Думаю, што ў будучыні, сказаў Аляксандр Сяліцкі, калі Кляшчэлі атрымаюць ужо статус горада, узнікне тут нешта накшталт мікрараёна, бо нават сама геаграфічная канфігурацыя падказвае, што якраз у гэтым месцы павінен развівацца горад. На ўвагу заслугоўвае і той факт, што фіналізуюцца ўжо работы, звязаныя з адкрыццём пагранічна-прапускнога пункта для машын у Чаромсе. Калі пункт такі ўзнікне, Кляшчэлі будуць першым горадам пасля пераходу беларуска-польскай мяжы.

Людзі, запытаныя пра тое, як яны ставяцца да таго, што неўзабаве іхняя мясцовасць можа атрымаць статус горада, усяляк адказвалі. Адны казалі, што факт гэты нічога не зменіць, іншыя, што ў горадзе жыць будзе больш прэстыжна, мабыць, узнікнуць новыя месцы працы, а яшчэ іншыя, што, пэўна, павялічацца падаткі.

Няма ніякіх падстаў, адказаў войт Аляксандр Сяліцкі, каб баяцца росту падаткаў. Гэта калісьці так было, што змена статуса цягнула за сабою рост усякіх аплат. Цяпер маем іншы час, падаткі вызначае Гмінная рада. Павышэння падаткаў баяцца, праўдападобна, старэйшыя людзі, якія памятаюць яшчэ тыя даўнейшыя часы.

**(ам)**

# АДЗІН ДЗЕНЬ У ГАЙНАЎЦЫ

Чарговы летні дзень зноў быў падобны на асенні. Серада — у гэты дзень у Гайнаўцы рынак, а на Горным, якое калісьці было асобнай вёскай, свята Казанскай Божай Маці, якая, паводле пераказу, Горнае ад граду ўратавала. З таго часу дзень на Горным ушаноўваюць святам. Паехаў і я з жонкай у Гайнаўку, каб пры нагодзе і некалькі спраў аформіць, ну і на рынку пабываць. На базары ўсё, чаго душа пажадае — ад гародніны да прыгожай мэблі. Расейцаў, як кажуць, на вялікім рынку мала, усе яны на малым, у цэнтры горада. Заглядаем і туды, а там як на кірмашы — няма дзе і кранууцца, хаця не ўсе купляюць, а толькі паглядзець прыйшлі. Расейцаў процьма, кожны хоча нешта прадаць. Адзін просіць, каб што-небудзь у яго купіць, другі наракае на жыццё-быццё, а трэці дзівуецца, што за кавалак пляцу плаціць трэба і то аж дваццаць тысяч. Уціснуліся і мы ў гэты калаўротак, але што тут пабачыш, калі няма дзе крутануцца. Сустрэў я знаёмага, разгаварыўся з ім. Жонка пайшла прапіхацца далей, нешта купіла, і гаворыць — у вочы ўлезла. Нічога я не сказаў, падумаў толькі пацішу: „Не была б гэта жанчына". Вяртаючыся дамоў, заехалі мы яшчэ на Горнае — там жа свята. Уязджаем, а тут стаіць старож парадку і паказвае налева. Не зразумеў я адразу ў чым справа.

— Заўрацай з повротэм, — гаркнуў ён, павысіўшы голас. Без слова выканаў я яго загад. Вось, бачыш, не пускаюць. Жонка маўчыць.

— Што з табой? — пытаю.

— Ведаеш?

— Як убачыла паліцэйскага, калені задрыжалі, — рассмяяўшыся ўголас, і запытаў: — Што, прыгожы такі?

— Дурань стары, — адказала, — гэта ад страху.

— Ён жа наш, — кажу, — грамадскі апякун. Гэта не даўней табе.

— Грамадскі ці які, на іх від страх бярэ і цяпер. Ён жа і не гаворыць па-чалавечы, а крычыць.

— А што, хочаш каб вяльможнай паняй называў?

— Мог бы і так; ён таксама ад нас выводзіцца. Ой, многа ў нас старога асталося; і не выпалоць яго, — мармытала далей жонка.

Ї так праехалі зноў праз усю Гайнаўку, каб на бельскую шашу выехаць. А там, дамоў, рукой падаць. Зноў дзень прайшоў, а колькі яшчэ такіх будзе, — падумаў я.

— Чаго мы ездзілі? — спытала мая жонка. — Нічога не купілі, а грошы развялі, ды пералякалі мяне і больш нічога. Каб у хату хутчэй, да свайго штодзённага гаспадарскага кругавароту ад усходу да заходу. Такая нам выпала доля.

Націснуў я на педаль, самаход пакаціўся шпарчэй.

**ГРЫША МАРОЗ**

# НАША ВЁСКА І ЕЎРОПА

*Працяг са стар. 1*

страваў менталітэт сялянскага асяроддзя („Сяляне”), але спроба ў такі сам спосаб апісаць пралетарыят Лодзі („Зямля запаветная”) закончылася аналізам душы збанкрутаванага „шляхеткі”, які, каб здабыць маёмасць адкідае ўсе прынцыпы свайго асяроддзя і становіцца маральнай пачварай. Пралетарыят для Рэйманта — гэта толькі фон.

Ва ўсходняй еўрапейскай літаратуры не з'явіўся ніхто накшталт Віктара Гюго, Эміля Заля, Гі дэ Мапасана, Томаса Мана. Культура вясковых грамадстваў імкнулася вырашаць праблемы дабра і зла, шукаючы выразнага падзялення між імі, ствараць узоры захавання, якія мелі быць прыкладам і такія, пераймаць якіх было нельга. Не было форм прамежных. Феадальнае грамадства патрабавала выразных прынцыпаў і аўтарытэтаў. Мусіў быць „добры пан”, які будзе прыкладам, скажа як жыць і што рабіць.

Сялянская гаспадарка не патрабавала супрацоўніцтва ўсіх з усімі, пастаянных кантактаў і кампрамісаў, пастаяннага пералічвання часу і тавару на грошы і наадварот, пастаяннай рызыкі і індывідуальных рашэнняў. У эканоміцы і грамадскай структуры не было ніякіх прадпасылак для ўзнікнення дэмакратыі на найніжэйшым узроўні. А гэта перш за ўсё былі асновы заходняга самакіравання.

Мяшчанства, якое патрабавала грошай для развіцця сваёй гаспадарчай дзейнасці, давяло да вялікіх рэформ рэлігійнага жыцця, і ў выніку сумы на касцельную арганізацыю паменшыліся на 90 %. Перш за ўсё пратэстанцкі святар стаў адным з вернікаў і толькі ўзначальваў багаслужбу. Не меў ён тае дэспатычнай улады, якая была ў руках святароў традыцыйных веравызнанняў. Ён быў залежны ад вернікаў, а не яны ад пастыра. Рэфармаваныя цэрквы былі перш за ўсё таннейшыя. Іх храмы ўнутры не былі нічым узбагачаны, апрача скромнага крыжа перад алтаром. Святары і епіскапы, каб служыць Богу, не патрабавалі дарагіх ювелірных вырабаў.

Рашучых змен патрабавала таксама мяшчанская рэлігійная ідэалогія. Мяшчанская тэалогія гаварыла, што да збаўлення не вядзе ахвяра на касцёл ці на палацы епіскапаў, удзел у працэсіях, паломніцтвах, а толькі самая вера, гэта значыць тое, што ёсць у нутры чалавека. Вера стала падарункам, ахвяраваным чалавеку Богам. Калі чалавеку ў жыцці шанцуе, калі расце яго багацце, значыць — ён выбраны Богам. А калі нарадзіўся багатым і страціў маёмасць — значыць, што Усявышні яго не заўважыў. І менавіта таму кожны стараўся давесці, што ён знаходзіцца ў ліку гэтых абраннікаў. Мяшчанская заходняя рэлігія стварыла такім чынам культ працы, ашчаднасці і рацыянальнага падыходу да ўсіх сфераў штодзённага жыцця. Няма там месца на выдаткі апрача тых, якія ў рэшце рэшт вядуць да яшчэ большага прыбытку.

Мы не ўяўляем нават сабе, што жывем у зусім іншай цывілізацыі чым тая, якую называем заходняй. Не камунізм вінаваты ў гэтых падзелах. Ён толькі закансерваваў фундаментальныя элементы феадалізму. Нават розніцы ва ўяўленнях таго ж самага Бога паміж „намі” і „імі” ёсць настолькі агромныя, што тэзіс аб „адной хрысціянскай культуры Еўропы” тычыцца хіба толькі сярэдневяковай эпохі, калі палякі і славакі сапраўды нічым не адрозніваліся ад немцаў ці французаў.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ТОЕ-СЁЕ ПЕРАД ВЫБАРАМІ

*Працяг са стар. 1*

саў, якіх далей будзем называць проста КАБатнікамі. І вось, калі маем на ўвазе вераснёўскія выбары, то менавіта паміж гэтымі людзьмі смела бушуюць палітычныя гандляры самых розных афарбовак у пошуках галасоў. На сённяшні дзень сярод згаданых КАБатнікаў існуе моцна сарганізаваная група КАЦ - што значыць Клуб аматараў Цімашэвіча - у скарачэнні КАЦапы. Уплывы КАЦапаў сярод КАБатнікаў вялікія, пра што мы пераканаліся ўжо не першы раз, у тым ліку і сённяшні галоўны рэдактар "Нівы", які ў выбарах у 1989 годзе годна змагаўся з тым, хто пазней кандыдаваў на пост прэзідэнта. Ролю і ранг КАЦапаў удалося мне пабачыць на фэсце, які адбыўся 1 жніўня ў гайнаўскім парку. Афіцыйным арганізатарам мерапрыемства было БГКТ, але ў многіх удзельнікаў склалася ўражанне, што галоўную ролю адыгрывалі КАЦапы. Перад уваходам у амфітэатр распрадаваў сваю кніжку і паціскаў рукі ашалелым ад шчасця сваім паклоннікам сам Владзімеж Цімашэвіч. Каля яго згодна ўвіхаліся прадстаўнікі Клуба афіцыйных беларусаў з Гайнаўкі і Беластока. На ступеньках амфітэатра ўсіх уваходзіўшых вітаў... мясцовы кандыдат ад Саюза левых дэмакратаў, былы сакратар партыі, які з пераможнай усмешкай спакойна ўручаў свае выбарчыя лістоўкі. На гэтым фоне і адбываўся беларускі фэст, дзе апрача песень можна было выйграць на фантавай латарэі беларускую кніжку, скласці свой подпіс на выбарчым спіску Беларускага саюза, а таксама папоўніць скарбонку з ахвяраваннямі на пабудову музея. Ну што ж, на беларускай культуры можна зарабіць і то нядрэнна! І толькі пад канец фэсту з'явіліся на сцэне кандыдаты ад Беларускага саюза і павялі сябе вельмі стрымана... не сказаўшы аніводнага слова. Такім чынам гайнаўляне нічога не даведаліся пра іхнюю праграму і толькі па выглядзе маглі ацаняць сваіх будучых заступнікаў. А мо была гэта тактыка Беларускага саюза, які надумаўся весці самую культурную выбарчую кампанію ў Рэчыпаспалітай, прэзентуючы выключна вонкавы выгляд сваіх кандыдатаў. Усе яны стройныя і адборныя мужчыны ды такім чынам могуць застацца ў памяці гайнаўскіх дзевак і жанчын. А жанчыны, вядома, як угледзяць сабе нейкага кандыдата, то і ў дзень выбараў рашуча падкажуць мужам, на каго трэба галасаваць.

**ЯЎГЕН ВАПА**

# НАШЫ КАРАНІ

## L VI. У ГЛЫБІНІ ПУШЧАНСКІХ НЕТРАЎ

Да круга выдатных дзяржаўных і царкоўных дзеячоў Старабеларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага), якія гуртаваліся пры вялікай княгіні Галене Іванаўне, мітрапалітах Іоне і Іосіфе II Солтане, князі Канстанціне Астрожскім належаў славуты род Хадкевічаў.

Паходзілі Хадкевічы з роду беларускіх баяраў Барэйкаў, высунуліся на відных дзяржаўных дзеячоў, калі Іван Іванавіч Хадкевіч ажаніўся з князёўнай Агнесай, дачкою вялікага князя рускага (кіеўскага) Івана Скіргайлы Альгердавіча, роднага брата караля Якава Ягайлы Уладзіслава, ды да таго выдатна заслужыўся ў сваяка па жонцы вялікага князя і караля Казіміра Ягелончыка падчас Трынаццацігадовай вайны (1454-1466) з крыжакамі. Затым сваю адданасць пануючаму праявіў, дапамагаючы раскрыць і ліквідаваць змову князёў Алелькавічаў і Гальшанскіх, якія рыхтавалі замах на жыццё Казіміра Ягелончыка ды далучэнне паловы беларускіх зямель (па раку Бярэзіну) да Вялікага княства Маскоўскага. Князі Міхал Алелькавіч і Іван Гальшанскі страцілі галовы на пласе ў Вільні ў 1481 г., а трэці змоўшчык, князь Іван Бельскі, папярэджаны сваяком па жонцы тым жа Іванам Хадкевічам, уцёк у Маскву. Іван Хадкевіч становіцца ў Казіміра Ягелончыка „чалавекам па спецыяльных даручэннях”, кароль кіруе яго на самыя адказныя і небяспечныя пасады ў дзяржаве. Гэта быў мудры палітык і чалавек цвёрдай рукі. У 1470-77 гадах ён — маршалак гаспадарскі, затым намеснік віцебскі, урэшце — ваявода кіеўскі. Тут Хадкевічы знаходзяцца ў вельмі блізкай лучнасці з браціяй Кіева-Пячэрскай лаўры.

У 1482 г. крымскія татары ўдарылі на Кіеў, абрабавалі яго, спалілі, вывелі ў няволю тысячы палонных. У палон трапіў таксама і Хадкевіч з усёй сям'ёю ды архімандрытам Кіева-Пячэрскай лаўры Феадосіем Вайкаловічам з грамадкай манахаў. Палонныя спачатку прабывалі на Крыме, потым на захопленых Турцыяй Балканах і ў Грэцыі і там, відаць, яшчэ болей умацаваліся сувязі Хадкевічаў з праследаваным туркамі праваслаўным духавенствам і асабліва з манаствам.

Ваявода Іван Хадкевіч неўзабаве памёр у няволі, але ні Казімір Ягелончык, ні яго сыны і ўнукі не забывалі пра заслугі ваяводы і яго нашчадкаў для віленскага і кракаўскага тронаў. Пры першай нагодзе Хадкевічы былі выкуплены з няволі, вярнуліся на радзіму, іх суцяшылі і па-каралеўску ўзнагародзілі аграмаднымі латыфундыямі і прыбытковымі пасадамі ў Вялікім княстве Літоўскім.

З Беластоцкай зямлёю звязана дзейнасць народжанага каля 1457 г. Аляксандра Іванавіча Хадкевіча, уладальніка аграмадных маёмасцяў, якія займалі асноўную тэрыторыю сённяшніх гмінаў Гарадок, Міхалова, Заблудаў, Супрасль, Харошча ў Польшчы, а ў Беларусі — Бераставіцкі раён, некалькі сёлаў на Палессі, вялікія маёнткі на Навагрудчыне. Дзякуючы сваёй ахвярнай дзяржаўнай службе і сваяцтву з вялікакняскім дваром А. Хадкевіч хутка ішоў на павышэнне: з канюшага на маршалка Вялікага княства Літоўскага, а затым на ваяводу наваградскага. У сваёй дзейнасці абапіраўся на праваслаўнае баярства і духавенства. Ажаніўся Аляксандр Хадкевіч з праваслаўнай князёўнай Васай (Васілісай) Іванаўнай са старажытнага роду князёў пінскіх. Яна стала вернай памочніцай мужу ў апецы над Праваслаўем.

У 1498 г. Аляксандр Хадкевіч у сваім родавым замку ў Гарадку-на-Супраслі ва ўшанаванне памяці свайго бацькі збудаваў царкву Іаана Багаслова і заснаваў праваслаўны манастыр. Праз два гады манастыр перавёўся ў глыб Блудаўскай пушчы ва ўрочышча Сухі Груд ля ракі Супраслі.

Па сённяшні дзень у ваколіцах Гарадка і Супраслі жыве легенда, што манахі перад сваім выхадам з Гарадка, вясною, па паўнаводнай Супраслі пусцілі крыж з дараванай манастыру вялікай княгіняй Галенай Іванаўнай частачкай дрэва Крыжа Гасподняга і туды, дзе святыня затрымалася (якраз на Благавешчанне Прасвятой Дзевы Марыі), папрасілі ў Хадкевічаў дазволу перавесці сваю абіцель. Дазвол яны атрымалі, а Хадкевіч у спісанай некалькімі гадамі пазней грамаце сцвердзіў: *„дозволил есми им с тое пущи нашое на тое будование дерево брати, што будет потреба на тот манастырь, и дрова, и лучину, и лыка, и грибы, и ягоды брати, и огород и сад мети близ манастыря, и сеножати прокосити, где б было не шкодно ловищам нашим и на тых речках вышеписанных (Грабоўцы і Беразоўцы — М. Г.) сажавки рыбные держати и на реце на Супрасле ез”*.

Новы манастыр склалі манахі з Кіева-Пячэрскай лаўры, выхадцы з балканскіх манастыроў, а нават са Святое Гары Афон у Грэцыі, але большасць манаскай брацііі паходзіла з мясцовага насельніцтва, а ўзначаліў абіцель ігумен Пафнуцій Сегень са старажытнага мяшчанскага роду з Бельска. Першай пабудовай на новым месцы была царква Іаана Багаслова, потым паўстала трапезная, келлі і іншыя збудаванні. Спачатку большасць манахаў — гэта былі пустэльнікі, якія жылі і маліліся ва ўласнаручна пабудаваных келлях-пустэльнях, параскіданых па ўсёй пушчы, збіраліся яны разам толькі на супольную малітву ў храме Божым у святочныя дні.

Як ужо пісалася ў папярэдніх адрэзках, з дапамогай і шчодрымі ахвяраваннямі новаму манастыру паспяшаўся епіскап смаленскі Іосіф Солтан. Апрача частачкі Жыватворнага Крыжа Гасподняга княгіня Галена Іванаўна ахвяравала абіцелі іконы і літургічныя кнігі. Не ўступалі ім у шчодрасці Аляксандр Хадкевіч, ахвяруючы манастыру вялікі маёнтак Харошчу, і Васіліся Хадкевіч, аддаючы абіцелі свае вёскі на Палессі і аздабляючы цудатворную ікону Божай Маці Супрасльскай усімі сваімі ўпрыгожаннямі з золата і дарагіх камянёў. Хадкевіч таксама паклапаціўся пра таленавітага архітэктара да пабудовы славутага Благавешчанскага храма, успамог яго ўзвядзенне сродкамі, звярнуўся за блаславеннем да патрыярха канстанцінапальскага і Яго Святасць Іаакім у 1505 г. спецыяльнай патрыяршай граматай блаславіў новы асяродак праваслаўнага духовага жыцця.

У хуткім часе Супрасльскі манастыр становіцца вядучым цэнтрам праваслаўнае духовае культуры ў заходняй частцы Старабеларускай дзяржавы. Манаская брацція працавала ў ім у самых разнастайных дзялянках: тут плённа дзейнічаў скрыпторый, у якім перапісваліся багаслоўскія і свецкія кнігі, майстэрня па пераплёту і аздобе кніг скурай, срэбрам, золатам і дарагім каменнем, іканапісная майстэрня, група кампазітараў, якая запачаткавала гэтак званы „супрасльскі распеў” у царкоўнай музыцы, і іншыя творчыя згуртаванні. Дзякуючы карпатлівай працы перапісчыкаў, шчодрым ахвяраванням, асабліва Іосіфа Солтана і Аляксандра Хадкевіча, а таксама набыткам у манастыры паўстала багатая бібліятэка, у якой ужо ў 1532 г. знаходзілася 129 кніг — як на тыя часы, колькасць значная. Сярод іх захоўваліся бясцэнныя для гісторыі і культуры Беларусі, Польшчы, Украіны, Літвы творы: летапісы, багаслоўская і свецкая літаратура. Супрасльская манаская брацція вяла таксама актыўную душпастырскую дзейнасць і вельмі станоўча ўздзейнічала на павышэнне духовага праваслаўнага жыцця і ўмацаванне праваслаўнай веры ў навакольнага насельніцтва.

Памёр Аляксандр Іванавіч Хадкевіч 28 мая 1549 г., быў пахаваны ў катакомбах Свята-Благавешчанскага храма ў Супраслі, побач з мітрапалітам Іосіфам Солтанам. Сышоў ён з гэтага свету тады, калі яго найважнейшы твор жыцця — Супрасльскі манастыр — знаходзіўся ў росквіце.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# РЭВАЛЮЦЫЮ НЕ РОБЯЦЬ У БЕЛЫХ ПАЛЬЧАТКАХ

Думаю, што многія прачыталі нарыс Зянона Пазняка п.з. „Д'яблы”, які нядаўна друкаваўся на старонках нашага тыднёвіка. І толькі чалавек без душы і сэрца (а такія ёсць сярод нас) абыякава аднёсся б да публікацыі беларускага патрыёта. Заўзятыя бальшавікі напэўна варожа ставяцца да прыведзеных ацэнак і, каб маглі, разарвалі б на кавалкі аўтара (як у нас, так і ў Беларусі). Калі б, напрыклад, такое штосьці напісаў я, дык мае праціўнікі аплявалі б мяне з галавы да ног. З Пазняком, аднак, іншая справа — ён чалавек вучоны і свой артыкул аснаваў на дакументах і фактах. Хацелася б мне, каб камуністы, якія не адцураліся ад гонару, адгукнуліся на публікацыю лідэра беларускай апазіцыі і далі сваю ацэнку расейскаму бальшавізму. Цікава было б даведацца, што думаюць пра гэта беластоцкія прыхільнікі бальшавізму, якія яшчэ нядаўна на старонках „Нівы” проста маліліся Леніну. Не залічваю ў іх лік „дэлегата Гайнаўскай зямлі”, бо такія як ён былі толькі выканаўцамі бальшавіцкіх злачынстваў. Хачу яшчэ дадаць, што „прафесійныя” бальшавікі добра ведалі пра масавыя злачынствы ў ленінскі перыяд. Калісьці закінуў я аднаму камуністу гэтыя злачынствы (бо і раней я ўжо многа ведаў пра іх) і ён мне адказаў так: „Рэвалюцыю не робяць у белых пальчатках”. Значыць, можна ўсё зрабіць, спасылаючыся на Леніна і ягоную ідэалогію.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# КАНДЫДАТЫ АД БЕЛАРУСКАГА САЮЗА

Выбарчы камітэт Управы Беларускага саюза ў РП зарэгістраваў у Ваяводскай выбарчай камісіі свой спісак кандыдатаў у Сейм. У ліку дзесяці кандыдатаў апынуліся: **Антон Міpановіч, Ян Сычэўскі, Мікола Бушко, Мікола Ваўранюк, Мікола Валіцкі, Сяргей Лукашук, Пятро Прышчэпка, Пятро Крук, Сяргей Шчыгал і Пятро Багроўскі**. Сёння прапануем нашым чытачам кароткія даведкі пра ўсіх кандыдатаў (пра М. Бушко пісалі мы ў папярэднім нумары).

Рэд.

### ПЯТРО БАГРОЎСКІ



Нарадзіўся ў 1959 г. у вёсцы Рутка, што ў гміне Дубічы-Царкоўныя. Як адзін з нешматлікіх маладых людзей будучыню сваю звязвае з роднай зямлёй. Вучыўся ў Варшаўскай сельскагаспадарчай акадэміі (Szkoła Główna Gospodarstwa Wiejskiego) на факультэце меліярацыі. Цяпер разам з жонкай працуе на бацькоўскай гаспадарцы ў сваёй роднай вёсцы.

Найважнейшае, паводле Пятра Багроўскага, каб людзі зразумелі, што пра свой лёс павінны яны вырашаць самі. Тое, ці будзем мець працу, хлеб і грошы залежыць ад таго, якіх будзем мець райцаў, войтаў, паслоў, сенатараў, ваяводаў. А пра тое, якіх будзем мець райцаў, войтаў, паслоў рашаем мы ўсе падчас выбараў. Пятро Багроўскі лічыць, што гэтым разам беларускае грамадства Беласточчыны прагаласуе, улічваючы перш за ўсё свае інтарэсы.

### МІКОЛА ВАЛІЦКІ



Нарадзіўся 18 мая 1947 г. у Баброўніках, што ў Гарадоцкай гміне. Там таксама вучыўся ў пачатковай школе. Пасля заканчэння прафесійнай школы ў 1964 г., у 17-гадовым узросце пачаў працаваць сталярам. Працуючы, далей вучыўся ў вячэрнявай школе і ў 1967 г. атрымаў дыплом тэхніка будаўніцтва. Адначасова стаў кіраўніком і са сваім калектывам працаваў на шматлікіх пабудовах. З 1975 г. Мікола Валіцкі - прыватны прадпрымальнік. За гэты час завочна закончыў Беластоцкую палітэхніку і атрымаў спецыялізацыю інжынера-механіка.

Жонка Міколы Валіцкага, Аліна, працуе настаўніцай матэматыкі. У іх трое дзяцей: Наталля, Анна і Даніла.

### МІКОЛА ВАЎРАНЮК



Нарадзіўся 11 жніўня 1945 г. у вёсцы Пянькі ў Міхалоўскай гміне. З 1949 г. жыве ў Беластоку. Тут закончыў Дарожны тэхнікум і Беластоцкую палітэхніку. Прайшоў таксама менаджэрскія курсы на Варшаўскім універсітэце.

Мікола Ваўранюк — спецыяліст па пабудове дарог і мастоў. Працуе ў сваёй прафесіі ўжо 29 гадоў. Працуючы кіраўніком будаўнічых прадпрыемстваў выбудаваў некалькі сот кіламетраў дарог і некалькі дзесяткаў мастоў. З 1990 г. ён — дырэктар фірмы „Budomost" у Беластоку, якая спецыялізуецца ў пабудове дарог і мастоў.

Мікола Ваўранюк з'яўляецца актыўным грамадскім дзеячам. Ён — намеснік старшыні Праваслаўнага брацтва, райца Гарадской рады ў Беластоку, намеснік старшыні Аб'яднання інжынераў транспарту у Беластоку, эксперт Ваяводскага суда і Галоўнай тэхнічнай арганізацыі, лаўрэат узнагароды I ступенні міністра транспарту. За сваю працу атрымаў шмат розных адзнак і медалёў, між іншым Медаль Марыі Магдаліны. Ён глыбокаверуючы, добрасумленны чалавек, які шануе простых і бедных людзей, якім, быдучы паслом, хацеў бы дапамагчы.

### ПЯТРО КРУК



Нарадзіўся 30 кастрычніка 1937 г. у Навасадах каля Гайнаўкі. У 1952 г., пасля заканчэння Пачатковай школы ў Навасадах, пачаў ён працаваць на фабрыцы сухой дыстыляцыі драўніны ў Гайнаўцы, а пасля — на лясных работах у Белавежскай пушчы. У 1954 г. выехаў у Шчэцінскае ваяводства, дзе працаваў у розных калгасах, а ў 1957 г. пераехаў на Шлёнск, дзе стаў шахцёрам. Пасля вайсковай службы вярнуўся на родную зямлю, дзе працаваў зноў у Белавежскай пушчы і на бацькоўскай гаспадарцы. Пасля яго лёс неразлучна звязаўся з транспартам. Працаваў у некалькіх фірмах у Беластоку і па-за Беластокам як кіраўнік warштатаў — найдаўжэй у „Цэнтралі рыбнай". За гэты час завочна закончыў Механічны тэхнікум. З 1968 года працаваў выкладчыкам на курсах для шафёраў.

Пятро Крук вельмі актыўна дзейнічаў у прафсаюзным руху. Некалькі разоў выбіраўся ў кіраўнічыя органы працаўнічых радаў розных прадпрыемстваў, у якіх працаваў.

У 1988-90 гадах быў райцам Гарадской рады ў Беластоку, а ў папярэдніх выбарах у Сейм РП — кандыдатам ад Беларускага выбарчага камітэта. Пятро Крук — член Праваслаўнага брацтва і сакратар Управы Беларускага саюза.

У Сейме хацеў бы так працаваць, каб кожнае палітычнае ці гаспадарчае рашэнне служыла перш за ўсё чалавеку.

### СЯРГЕЙ ЛУКАШУК



Нарадзіўся ў 1944 г. у вёсцы Градалі, што ў Бельскай гміне. Жыве і працуе ў Бельску-Падляшскім. Яго жыццё неразлучна звязана з музыкай. Ён - выпускнік Вышэйшай музычнай школы ў Варшаве, дзе атрымаў званне магістра мастацтва. З 1975 г. Сяргей Лукашук - дырэктар Бельскага дома культуры. Ён шматгадовы кіраўнік мастацкіх калектываў, якія дзейнічалі ў Пачатковай школе н-р 3 і ў Агульнаадукацыйным ліцэі імя Б.Тарашкевіча ў Бельску. На Беласточчыне найбольш ён вядомы як дырэктар і кіраўнік хору "Васілёчкі", а апошнім часам калектыву "Маланка".

Сяргей Лукашук быў членам Прэзідыума ГП БГКТ і старшынёй камісіі культуры Таварыства, арганізаваў конкурсы "Беларуская песня". Цяпер ёсць райцам гарадской рады ў Бельску. Як дырэктар Дома культуры быў арганізатарам і ініцыятарам шматлікіх культурных мерапрыемстваў, між іншым "Дзён Бельска-Падляшскага", "У пошуках фальклору", музычных і дэкламатарскіх конкурсаў, а апошнім часам агляду "Вечар калядак" - імпрэзы, якая мела інтэграваць праваслаўных і каталікоў.

Сяргей Лукашук - жанаты і мае 2 дзяцей.

### АНТОН МІРАНОВІЧ



Нарадзіўся ў Беластоку ў 1959 годзе. Пачатковую школу закончыў у Алексічах, што ў Заблудаўскай гміне, а пасля — Механічны ліцэй у Беластоку. У 1982 г. стаў выпускніком Гуманістычнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта. Працаваў настаўнікам і рыхтаваў доктарскую дысертацыю. У 1990 г. Універсітэт імя Мікалая Каперніка ў Торуні прысвоіў яму званне доктара гістарычных навук. У 1992 г. кніжка Антона Міpановіча пра Праваслаўе на Беласточчыне выклікала бурлівую дыскусію ў польскай і беларускай прэсе. Праваслаўнае асяроддзе ацаніла гэту працу вельмі станоўча.

Антон Міpановіч — аўтар некалькі соцень артыкулаў аб гісторыі беларусаў і Праваслаўя на нашай зямлі. Апрача навуковай працы шмат часу прысвячае ён грамадскай і палітычнай дзейнасці. Быў суарганізатарам Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Праваслаўнага брацтва і Беларускага саюза. Жанаты. Мае трох сыноў.

### ПЯТРО ПРЫШЧЭПКА



Нарадзіўся 14 жніўня 1937 г. у Баброўніках, што ў Гарадоцкай гміне. Там вучыўся ў пачатковай школе, а пасля — у прафесійнай у Старасельцах. Працаваць пачынаў як трактарыст у Ольштынскім ваяводстве. Пасля вайсковай службы пачаў у 1959 г. працаваць механікам у warштатах Ваяводскай камендатуры міліцыі ў Беластоку. Працуючы, вучыўся ў Самахадовым тэхнікуме, а пасля матуры — у Афіцэрскай школе міліцыі ў Шчытне і на курсах адміністрацыі і эканоміі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

У 1975 г., у выніку рэарганізацыі дзяржаўнай адміністрацыі, быў службова перанесены ў Ломжу, на пасаду начальніка матэрыяла-тэхнічнага аддзялення тамашняй Ваяводскай камендатуры. Пасля стаў намеснікам каменданта міліцыі па справах гаспадарчай адміністрацыі.

У 1985 г. у рангзе маёра стаў пенсіянерам і заняўся бізнесам у Беластоку.

Сёння Пятро Прышчэпка — дырэктар фірмы „Elanda" і прадстаўнік прадпрыемства „Euro-Continental" на Беларусь і іншыя дзяржавы былога СССР. Фінансава падтрымоўвае камітэт „Дзеці Чарнобыля" і дзіцячыя дамы, у якіх жывуць пакрыўджаныя лёсам дзеці. Як бізнесмен падтрымоўвае таксама шмат культурных мерапрыемстваў, напрыклад, конкурсы „Беларуская песня".

Яго выбарчыя лозунгі:

— пашана правоў меншасцей у Польшчы і іх мірнага сужыцця з польскім народам,

— згоднае сужыццё ўсіх веравызнанняў,

— ажыўленне кантактаў усіх беларусаў у Польшчы з Беласточчынай — іх малой айчынай.

### ЯН СЫЧЭЎСКІ



Нарадзіўся ў 1937 г. у вёсцы Стрыкі каля Бельска-Падляшскага. Пасля заканчэння пачатковай школы вучыўся ў Педагагічным ліцэі ў Бельску-Падляшскім. У 1955 г. стаў працаваць кіраўніком школы ў Чаромсе-Вёсцы. У наступных гадах працягваў вучыцца на настаўніцкіх курсах у Торуні, а пасля на Педагагічным факультэце Гданьскага універсітэта. Чарговы этап яго прафесійнай кар'еры звязаны быў з пасадай сакратара Управы аддзела Саюза польскіх настаўнікаў. Ян Сычэўскі быў арганізатарам культурнай дзейнасці ў настаўніцкім асяроддзі Гайнаўкі. У гадах 1964 - 1970 быў інструктарам, а пасля кіраўніком клуба прафсаюзаў у Беластоку. З 1970 г. працуе настаўнікам у Беластоцкай палітэхніцы.

У 1991 г. быў выбраны намеснікам старшыні Галоўнага праўлення БГКТ, а ў маі 1993 г. на XII з'ездзе гэтай арганізацыі - старшынёю ГП. Сваю актыўнасць накіроўвае на развіццё культуры і асветы сярод беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

### СЯРГЕЙ ШЧЫГАЛ



Нарадзіўся 3 сакавіка 1945 г. у Тапчыкалах у Арлянскай гміне. Пачатковую школу закончыў у Пашкоўшчыне, а пасля вучыўся ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Пасля матуры працаваў настаўнікам. У 1970 г. закончыў Жашоўскую палітэхніку і атрымаў званне магістра тэхнічнага выхавання. З 1975 г. працуе дырэктарам Пачатковай школы н-р 2 у Сямяцічах. У самаўрадавых выбарах у 1990 г. выбраны райцам горада Сямяцічы і адначасова намеснікам старшыні Рады горада.

# АРАЦЬ СВАЁ ПОЛЕ...

**АДА ЧАЧУГА ГУТАРЫЦЬ З ПРАФЕСАРАМ АДАМАМ МАЛЬДЗІСАМ, ДЫРЭКТАРАМ НАЦЫЯНАЛЬНАГА НАВУКОВА-АСВЕТНАГА ЦЭНТРА ІМЯ ф. СКАРЫНЫ, ПРЭЗІДЭНТАМ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ.**



*— Скарынінскі цэнтр атрымаў сваю сядзібу. Неяк дзіўна гучыць: Адам Мальдзіс — ды не ў Акадэміі навук...*

— Ва ўсім свеце такія цэнтры, як хаця б цэнтры Кірылы і Мяфодзія ў Сафіі, як „Маціца сърбска" ў Бялградзе, выступаюць як самастойныя адзінкі, як нацыянальныя цэнтры культуры.

Мы покуль што ў Міністэрстве адукацыі, але павінны былі быць у падпарадкаванні адпаведнага аддзела Савета Міністраў, дзе цяпер створаны сектар па нацыянальных пытаннях. Відаць, там мы будзем па-сапраўднаму патрэбны.

*— Чаму вы як цэнтр рашылі падтрымаць ідэю склікання Першага з'езда беларусаў свету, хаця некаторыя іншыя арганізацыі выказваліся супраць?*

— Мы дзве гадзіны спрачаліся, і гэта рашэнне вісела на валаску.

*— І што ж сёння Вы можаце сказаць аб гэтым з'ездзе?*

— Гэта ўжо гісторыя. Першы ёсць першы. Ніякія станоўчыя ці адмоўныя ацэнкі нічога не дадуць. Тым больш, што станоўчых было больш.

Упершыню сабраліся разам беларусы як удзельнікі сусветнай супольнасці. Мы сябе адчулі ўпершыню як адзінства.

Мы проста пазнаёміліся. Убачылі людзей, пра якіх толькі чулі ці здагадваліся.

Мы пачалі разумецца.

А найважнейшае — мы пачалі па-сапраўднаму супрацоўнічаць. Я не гавару пра ўсе арганізацыі. Я гавару ад імя Скарынінскага цэнтра і Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Для нас гэта было карысна, а таксама і для тых суайчыннікаў, якія ўваходзілі ў кантакт з намі.

З'езду папярэднічала міжнародная навуковая канферэнцыя „Рым IV", прысвечаная суаднасінам нацыянальных і рэлігійных культур Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны і культур сумежжа.

Дарэчы, шмат увагі на гэтай канферэнцыі было прысвечана Беласточчыне.

Беларусы, якія жывуць у розных краінах, не вінаватыя ў тым, што ў нас разыгрываюцца розныя палітычныя камбінацыі, і З'езд беларусаў свету быў для іх адзіным і, можа, чаго не дай Бог, апошнім шанцам пабываць на роднай зямлі.

*— А што з ідэяй Усебеларускага дома?*

— Шкадую, што гэта ідэя засталася покуль што не рэалізаванай. Я лічу, што ёсць грамадскія структуры „Бацькаўшчыны", Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і ёсць навуковыя структуры, як наш цэнтр, ды іншыя ўстановы, і на іх падставе можна стварыць Беларускі дом. А выйшла, што мы атрымалі другі паверх, першы паверх атрымала „Бацькаўшчына", а на трэцім засталася пракуратура, якая пры цяперашняй расстаноўцы сіл, раз'яднаных, — можа застацца там да канца свету, а прынамсі 1000-годдзя.

Але ўсё-такі веру, што з цяперашнім кіраўніцтвам „Бацькаўшчыны" мы дойдзем да паразумення. Гэта не можа быць дом Лецкі ці Мальдзіса, гэта мае быць **Усебеларускі дом.**

У маім разуменні ў Беларускім доме найперш павінен быць музей „Беларусы ў свеце". Пачатак ужо намі створаны, бо ў новай сядзібе — былым будынку „Інбелкульта", дзе пачыналася беларуская навука і культура, мы 9 ліпеня адчынілі экспазіцыю.

Другое. Там павінен быць банк інфармацыі „Беларускае замежжа", а для яго ўжо ў нас ёсць некалькі тысяч адзінак інфармацыі.

Трэцяе. Бібліятэчныя і архіўныя зборы. І хачу пры гэтым падкрэсліць, што мы абсалютна не канкурэнты такой магутнай арганізацыі, як Акадэмія навук, ці такой грамадскай арганізацыі, як „Бацькаўшчына ".

Мы знайшлі сваю дзялянку і робім сваю справу. **Кожны чалавек павінен араць сваё поле, а не чужое.** Наша дзялянка — гісторыя і тэорыя беларускай культуры, яе сувязі з іншымі культурамі, гэта беларусазнаўства ў шырокім разуменні слова — комплексныя праблемы, гісторыя веравызнанняў на тэрыторыі Беларусі, адраджэнне краязнаўства і, бадай адно з найважнейшага, — вяртанне гісторыка-культурнай спадчыны ў яе поўным аб'ёме.

Не бачу покуль што іншых ахвотных для распрацоўкі гэтых тэмаў, апрача Скарынінскага цэнтра. На шчасце, прыйшла да нас здольная моладзь, якой можна смела даверыць эстафету пакаленняў.

*— Я чула, што вы там гуртуеце шмат цікавых людзей.*

— Вядома ж, не абы-якіх. У Скарынінскім цэнтры сёння працуе 30 асоб і 20 асоб дагаварных. Намеснік дырэктара — вядомы вам Вячаслаў Рагойша, працуе д-р філасофскіх навук Уладзімір Конан, д-р гістарычных навук Генадзь Каханоўскі; навукоўцы сярэдняга пакалення — гісторык Захар Шыбека, філосаф Алесь Анціпенка, краязнавец Лідзія Кулажанка, літаратуразнавец і паэт Алесь Разанаў, ды іншыя.

*— Як дзіця атрымлівае, даросшы, новую сядзібу, так і вы аддзяліліся ад Акадэміі навук Беларусі. Але ж сувязей вы не парвалі?! Доказам таго нават тое, што гэта інтэрв'ю я бяру ў Вас у будынку Акадэміі.*

— Цяперашняе кіраўніцтва Акадэміі вельмі сардэчна адносіцца да нас — як да вельмі падрослага дзіцяці, хоць, можа, не заўсёды паслухмянага.

*— Але ж вы і так вярнуліся туды, дзе пачыналася беларуская навука і культура...*

— І гэта — сімвалічна!

*(Гутарка праведзена ў Менску 12 ліпеня 1993 года)*

**Фота АДЫ ЧАЧУГІ**

# ПРА УЛАДЗІМІРА САМОЙЛУ-СУЛІМУ

Нядаўна выйшаў з друку 142 сшытак „Polskiego Słownika Biograficznego". У ім знаходзім (на стар. 420-421) біяграфію Уладзіміра Самойлы-Сулімы (1878-1941), беларускага дзеяча, публіцыста і літаратурнага крытыка. Апрацавала яе вядомая нам даследчыца Аляксандра Бергман з Варшавы.

У. Самойла-Суліма выводзіўся са зрусіфікаванай валынскай шляхты. Нарадзіўся ён у родавым маёнтку Казіміраўка, што пад Менскам. У Менску закончыў у 1898 г. гімназію, а потым вучыўся ў вышэйшых навучальных установах у Маскве і Пецярбургу. Вярнуўшыся ў Менск, наладзіў супрацоўніцтва з расейскім часопісам. Быў суарганізатарам кніжнага таварыства „Мінчук" (у 1906 г.).

Хутка зацікавіўся маладой беларускай літаратурай. Стаўшы настаўнікам паэта Яна Луцэвіча (Янкі Купалы), дапамог яму ў дэбюце (верш на беларускай мове п.з. „Мужык") на старонках расейскай газеты „Северозападный край". Ён жа першы ацаніў Купалавы зборнік „Жалейка".

Пасля 1911 г. на некалькі гадоў спынілася публіцыстычная дзейнасць Самойлы-Сулімы, а ён сам пераехаў з Менска ў Казіміраўку. Падчас I сусветнай вайны ўзначальваў дзяржаўную хімічную лабараторыю ў Менску. Належаў да партыі канстытуцыйных дэмакратаў.

У снежні 1918 г. перанёсся ў Вільню, дзе навучаў у гімназіі. З часам пачаў супрацоўнічаць з расейскімі эміграцкімі часопісамі. Наладзіўшы кантакт з беларускімі дзеячамі, уключыўся ў беларускі адраджэнскі рух, стаў членам Беларускага нацыянальнага камітэта і некалькіх таварыстваў. У 1923 г. выдаў брашуру „Працэс 45 беларусаў у Беластоку". Год пазней паявілася праца „Прафесар Здзяхоўскі аб беларускай душы".

У гадах 1923—27 Уладзімір Самойла-Суліма быў адным з найвыдатнейшых і найбольш плённых публіцыстычных заступнікаў беларускай справы. Друкаваўся ў „Новым жыцці" і „Нашай будучыні", дзе востра крытыкаваў як палітыку беларускага клуба ў Сейме, так і стаўленне некаторых паслоў. Свае погляды найшырэй прадставіў у брашуры „Гэтым пераможаш" (1924 г.). Адначасова пісаў і аб сучаснай беларускай літаратуры. Ён жа першы заняўся творчасцю ксяндза Канстанціна Стаповіча (Казіміра Сваяка).

У 1927 г., у знак пратэсту супраць пастановы ЦК КПЗБ, якая падзяліла нацыянальны беларускі рух на „буржуазны" і „пралетарскі", выступіў з усіх беларускіх таварыстваў. У. Самойла-Суліма наогул дрэнна ставіўся да Кастрычніцкай рэвалюцыі і марксізму. З часам вярнуўся працаваць у некаторых беларускіх установах, м. інш. у Беларускім навуковым таварыстве. Друкаваўся ў часопісах „Калоссе" і „Крыніца".

У кастрычніку 1939 г., пасля ўваходу Чырвонай арміі, быў арыштаваны. Трымалі яго ў зняволенні на Лукішках, у Беластоку і Вілейцы. Загінуў з рук НКУСаўцаў праўдападобна ў канцы чэрвеня 1941 г.

У. Самойла-Суліма, хаця папраўдзе быў расейцам, аднак лічыў сябе „амаль беларусам". Добра ведаў сем моваў. Яго жонкай была Софія Яніна Жылевіч, з якой меў сына Уладзіміра.

На заканчэнне біяграфічнага нарыса Аляксандра Бергман падае спісак крыніцаў і апрацаванняў, што датычаць У. Самойлы-Сулімы. У спіску названы м. інш. ейны артыкул, змешчаны ў „Беларускім календары на 1992 г."

Дабаўма, што сёлета мінае 115 гадавіна нараджэння „Уладка з Казіміраўкі".

**П. БАЙКО**

# НЯХАЙ ВОЗЬМЕ ЯГО ХАЛЕРА...

У далёкія і бедныя пяцідзесятыя гады па вёсках Нараўчанскай гміны ездзіла дзіўная фурманка. Яна затрымоўвалася ля кожнай хаты. У жалезным возе сядзеў стары, лысы і сляпы дзед з такім жа старым і драхлым гармонікам. Пры кожным двары ён іграў нейкія сумныя мелодыі, а потым па-польску маліўся. Кожная гаспадыня хуценька выносіла дзеду пару яек, лусту хлеба, або кавалак сала. Каня паганяў чатырнаццацігадовы кульгавы Стэфан — дзедаў унучак.

Гаварылі, што дзед быў з ваколіц Гарадка. Некалькі разоў у год, праехаўшы Міхалоўскую гміну, жабрацкая фурманка пераязджала мост у Бандарах і пыльнымі пясчанымі дарогамі цераз Луку, Семяноўку, Альхоўку кіравалася ў пагранічнае Масева, каб гэтым жа шляхам вяртацца назад.

Назбіраўшы яек, фурманка пад'язджала да вясковай крамы, каб частку іх памяняць на залатоўкі. Вакол дзеда і ўнука стаяў натоўп дзяцей, падлеткаў, моладзі і дарослых. Каб было весялей, хлопцы і дзяўчаты дражніліся са Стэфанам. Калі надакучылі яму, браў ён пугу і, кульгаючы, ганяўся за дзяўчатамі, якія ўцякалі і задаволена пішчалі.

Вельмі часта прасілі дзеда іграць. Тады стары музыка націскаў клавішы і спяваў страшэнна доўгую песню, у якой гаварылася аб паходзе Гітлера на Польшчу і Савецкі Саюз. Помню некаторыя вытрымкі з гэтай песні.

*Kiedy ranne wstają zorze,*
*Niemcy wzięli nam Pomorze,*
*Gdy nastała krótka cisza,*
*Niemcy poszli do Kalisza*
*A z Kalisza do Warszawy,*
*gdzie dostali bęben krwawy.*

Як прыпеў паўтараліся словы:

*O, niech weźmie go cholera,*
*Co to było za Hitlera?*

Далей дзед спяваў:

*A z Warszawy aż do Moskwy,*
*tam spotkali wielkie troski...*
*Z Moskwy aż do Stalingrada,*
*tam spotkała wielka biada....*

Людзі слухалі, а дзед да слёз хваляваўся. Спяваў аб няслаўным гітлераўскім канцы і канчаў песню моцным аптымістычным акцэнтам:

*Lecz my Niemców zwyciężyli,*
*z swojej ziemi wypędzili.*
*Wypędzili te bydlęta,*
*bo to nasza ziemia święta.*

Дарослыя не дужа пераймаліся банальнымі словамі песні, але я, вучань падставовай школы, браў у хаце падручнік гісторыі і чытаў яшчэ раз раздзел аб мінулай вайне. Мне чамусьці думалася, што стары страціў зрок на вайне.

З таго часу прайшло шмат гадоў. Гаварылі, што аднойчы халоднай восенню дзед захварэў і ў дарозе памёр. Больш ніколі я ўжо не чуў гэтай песні, але назаўсёды асталося мне ў памяці:

*O, niech weźmie go cholera,*
*Co to było za Hitlera!*

**МІКОЛА ВАРАНЕЦКІ**

З нагоды „Вечара цяжкога дня", яшчэ адзін ліст Сябру

## КАРЫСТАЮЧЫСЯ ПРАВАМ РЭПЛІКІ...

Дарагі Сябра, сёлетняе „Басовішча" можа і не было такое, як бы мы хацелі — *„грандыёзнае свята беларускай песні"*; можа гэта і не *„дэманстрацыя патрыятызму"*, можа нават і не *„сталасць беларускай рок-музыкі"*. Сапраўды, магчыма не такім удалося нам гэта „Басовішча", якім жадалі мы яго ўбачыць... Але, ці быў Ты калі на гэткім фестывалі песні ў Беларусі якраз, на якім нагладалася столькі радасці ды нармальнасці? І чаму гэта сюды, у Гарадок, з'язджаюцца ўсе аматары рока, а не ў Менск, сталіцу Рэспублікі Беларусь?

„Басовішча" — гэта напэўна не Вудстак, бо яно ім... не хоча быць. Куды нам да яго, Божа літасцівы!

Узнікла „Басовішча" на грунце натуральнае прагі да *„нармальнасці"* (цыт.) у маладога беластоцкага пакалення беларусаў, якое спалучае патрыятызм з сучаснай музыкай і гуляе на працягу двух летніх дзён ва ўрочышчы Барык, што ля Гарадка. Гэта, натуральнае ў маладабеларусаў, імкненне вырвацца з зачараванага кола бэгэкатоўскай культуры. Можа *„дыхаць чыстым паветрам"*, не размахваючы без дай прычыны бел-чырвона-белым сцягам ды Пагоняй. Пабыць, менавіта, нармальнымі, як і належыць цывілізаванаму народу. Абараняемся ад фіктыўнай і на паказ савецкай беларушчыны, што, вельмі магчыма, так моцна нервуе некаторых і не прымаецца Вашым сябрам Уладзіславам Ахроменкам. Што ж: яго права, як і мае не пагадзіцца з ім.

У нашым асяроддзі, ведаеце, нават і згадкі няма пра той Вудстак. З гэтым памятаннем пра яго, ці не памятаннем усё куды прасцей, чымсьці Вам думаецца. Бо — параўноўвацца з такім вялікім мерапрыемствам, як Вудстак, было б характэрнай праявай правінцыйнай закамплексаванасці, з якое, відаць, не выбраўся яшчэ Ваш Уладзіслаў Ахроменка, які адрасаваў Вам карэспандэнцыю „Вечар цяжкога дня", змешчаную ў „Ніве" ад 1 жніўня. Я яго разумею і спачуваю.

Прыраўняў Ваш сябар, Ахроменка, „Камелота" да „Джэтра Таля". Даражэнькі, калі хто грае на альце і флейце, дык гэта зусім не значыць, што ён „Джэтра Таль"! Як і тое, хто друкуецца ў „Ніве" — гэта неабавязкова ўжо журналіст.

Якім маральным правам ён, Уладзіслаў Ахроменка, залазіць прытым у прыватнае жыццё іншае асобы?! Трэба быць *„гома-савецікусам"*, каб дапусціцца таго. Асабістае жыццё ўдзельнікаў „Мроі" і „Новага Неба" не павінна цікавіць ні Вас, ні Вашага Сябры. Гэта брыдка! — не ў свае нос садзіць. Калі ахвота раўняцца на Еўропу, дык у той жа, зайздроснай Вам Еўропе, нікому няма справы да Джані Наніні за тое, што яна — лесбіянка, ані да вялікага Мадыльяні за тое, што ён — алкаголік, а Караваджа нават забойца. Хто і каму дазволіў іранізаваць з артыста Лявона, што ён, магчыма, *„пампэ ад нястачы ранішняга піва"*? Не трэба пісаць пра „Басовішча" таго, чаго на ім не было, а калі што і здарылася прыкрае, дык як адзінкавае, маргінальнае для публікі.

Яго намёкі на плакат сёлетняга „Басовішча" на тую „птушку", нагадваюць мне паводзіны тых славутых расійскіх, сціплых на выгляд, прыгажуняў, сціпласць якіх канчаецца, калі пагасіць у кватэры святло...

Можа быць не столькі прыкра, колькі смешна мне было з Вашага Уладзіслава Ахроменкі, які ў акце пачатку фестывалю „Басовішча", зразумеў толькі тое, што пад сілу яму было тады зразумець, а менавіта... пляшку алкаголю. Напісаў: *„...Сакрат з Лёнікам адразу ж на сцэне адкаркавалі пляшку шампанскага, аблюшы пры гэтым усіх, хто стаяў паблізу, і фэст распачаўся"*. Вось так, ні больш і не менш: аблілі, і кропка! Хуліганы яны, ці што? Марнатраўцы апетытнага французскага віна? Ахроменка мог яшчэ заўважыць вельмі блізкую яму, відаць, і такую сцэнку, калі юнакі з публікі проста выхапілі з рук Сакрата тую рэштавіну нераспырсканага шампанскага і рынуліся з паўпустою бутляю ўбок, у кусты, выпіць і дапіць!.. Сімволіка адкрыцця не дайшла да высокага духа Вашага Сябры. Нічога, калісьці дойдзе, пабыўшы ў свеце.

Дзе ў яго гонар, калі апісваючы выступленне гуртоў, параўноўвае прымітыўны „Камелот", які *„...просто двери попутав, улицу, город и век"*, з „Джэтра Талем"? Тут не шкада хлопцаў, бо яны ведаюць, з кім павінны раўняцца, і веру, што будуць працаваць ды даб'юцца таго, чаго хочуць. Калі, вядома, напэўна будуць п р а ц а в а ц ь. А ў гайнаўскім „Швэё" кідаў х... у публіку акурат Ваш савецкі сябар, іншы, які апынуўся ў гэтым гурце. Яго вульгарнасць лішне атаясамліваць з эмблемаю на плакаце.

Ахроменка пайшоў піць (роспачна?) піва, калі пачуў, што будуць выступаць палякі са Скерневіцаў, вядома, па-польску, бо і як жа іначай мелі б спяваць палякі. Нам гэта нармальнае: паляк спявае па-польску, а беларус спявае па-беларуску.

Прычапіліся журналісты да піва, як тая вош да сабачага хваста. Што дрэннага ў піве? У Еўропе піва прадаюць нават на кажнюткай самаходнай станцыі, і ў аўтаматах. У Беларусі не прадаюць, але алкагалізму ў Беларусі і дарожных выпадкаў там у шмат разоў больш, настолькі больш ужо, што перавышае гэта лікі нованароджаных дзяцей. У Беларусі ўсё менш людзей! (пачытайце, не гультайцеся, апошнія менскія газеты). Гэта не быў фэст БГКТ, дзе заліваюцца гарэлкаю. Па савецкім навыку, ці як?

Быццам да таго піва, нядобра прысмактаўся Ваш Уладзіслаў Ахроменка і да самых лепшых гуртоў у Беларусі, што прыехалі на „Басовішча". Да „Мроі", да „Крамы", да Касі Камоцкай і да „Новага Неба". Што рабіць з гэтым Вашым правінцыялам? Спытаць у яго, ці магчымы быў бы падобны канцэрт на Беларускай Зямлі? Дарэмнае пытанне. Правінцыял будуе свой дух, крывячыся на ўсё, што адбываецца вакол яго, але сам нічога карыснага не ўчыніць. Бракавацьме яму — і таленту, і жадання вырвацца з манернай нуды. Беларускія гурты (напр. „Уліс") запрашаюць на канцэрты да сябе немцы, ангельцы, дзе выпускаюць ім асобных кружэлкі. Доўга пашукаць нам другога такога гітарыста, як Слава Корань з Беларусі, а ён жа, таксама, быў на „Басовішчы". Але, правінцыялу на ўсё гэта папросту напляваць. Правінцыялу ўсё гідасць, і ён сам сябе гатоў залічыць у нулі.

Уяві сабе, Сябра Ты мой, што усенька тое адбылося, *„у маленькай гарадоцкай гміне (18 км ад граніцы з Рэспублікай Беларусь), дзе цяжкая аднастайная праца, ідыятызм вясковага жыцця (?), і тут раптам — такі фэст!"* — „Басовішча"! Падобнага яму нямаш на ўсёй Рэспубліцы Беларусь. Паверыш Ты?

**ЛЁНІК ТАРАСЭВІЧ**

**P.S. Галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Мірановіч!**

Сумна мне пісаць гэтыя словы, калі „Ніва", з якою мяне так многа спалучала, далучылася да антыбеларускай дзейнасці, якая апошнім часам вядзецца на Беласточчыне і ў Беларусі. Паводзіны пасла Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Сянько ў Гдыні ў адносінах да Сакрата Яновіча, урада Беларусі ў адносінах да мяне падчас маёй выстаўкі ў Менску, стаўленне беластоцкай прэсы і паліцыі да сёлетняга „Басовішча" і беларускіх студэнтаў — гэта ўсё спалучаецца ў адзін працяг антыбеларускіх здарэнняў, у якім вы ёсць адным з яго элементаў. Кампраметуецца сёння ўсё, што беларускае і што мае нейкую вартасць, хваліцца афіцыйную стылізаваную беларускасць. Вы таксама бярэце ў гэтым удзел. Ваша газета, якая заўсёды друкавала справаздачы з бэгэкатоўскіх мерапрыемстваў, аглядаў песень ці купалляў, паказвала іх у каляровым святле, стварающы ім прымальны вобраз. Артыкул у „Ніве" аб „Басовішчы" крытыкуе ўсё, што было цудоўнае, а хваліць усё дурное.

Якіх вы журналістаў цяпер маеце ў „Ніве"? Ці маюць яны права хадзіць па нашай беластоцкай зямлі? Ці не лепш, каб гэтыя камуністы рабілі правакацыі ў Менску?

Думаю, што папросіце прабачэння ў тых, якія так цяжка працавалі пры арганізацыі „Басовішча", будуючы Новую Вольную Беларусь у той час, калі вашыя журналісты прыемна адпачывалі на вёсцы.

**ЛЁНІК ТАРАСЭВІЧ**

**Ад рэдактара:**

Ведаю, што змяшчаючы гэты допіс на старонках „Нівы", я перш за ўсё пакрыўдзіў яго аўтара. Сталася гэтак у выніку рашучага патрабавання Лявона Тарасэвіча, які, спасылаючыся на права рэплікі, дамагаўся апублікаваць тэкст поўнасцю.

Я ніколі не паверыў бы, што мастак сусветнага маштабу ёсць аўтарам гэтых радкоў, калі б ён сам не прынёс тэксту ў рэдакцыю „Нівы". Шкада, бо Лёнік быў для мяне сімвалам імкнення да свабоды слова, талерантнасці і адначасова адказнасці. Не дапускаю да сябе думкі, што ў будучыні можа быць інакш.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## „ГРАМАДА" Ў БЕЛЬСКУ

*— Не мае шчасця „Грамада" да канцэртаў у Бельску,* — сказала мая жонка, калі ў палове дня неба зацягнулася чорнымі хмарамі, — *зноў, як і ў мінулым годзе, дождж сарве імпрэзу.*

Кажучы гэтыя словы, мела яна ў памяці мінулагоднюю выступленне гурту ў гарадскім парку (на Ільлю), калі лівень з маланкамі ды грымотамі разагнаў публіку і прымусіў артыстаў уцякаць са сцэны ўжо пасля трох песень. Фанаты „Грамады" цэлую суботу — 7 жніўня — былі ў няўпэўненасці — убачаць свой любімы гурт, ці не. Неба раз-пораз цямнела, зрэдчас пакрапваў доджджык, каб зноўку праясніцца на некалькі хвілін. Але пад вечар надвор'е паправілася і, хаця было халаднавата, тым не менш канцэрт прайшоў без ніякіх перашкод.

„Грамада" вядомая на Беласточчыне ўжо чатыры гады, пры чым яе папулярнасць рабілася ўсё большай. Між „Дубінамі" і „Маланкай" суботнія беларускія канцэрты пажаданняў па Беластоцкім радыё былі здамінаваныя якраз гэтым калектывам. „Грамада" — гэта першы беларускі гурт, які запрашаюць на музыку ў польскія вёскі Беласточчыны. Гледзячы на камерцыйны поспех і працавітасць гурту, мы з сябрамі былі згодны, што гэтыя музыканты больш зробяць для беларушчыны ў нас, чымсьці нашы кволыя палітычныя намаганні, не гаворачы ўжо пра заклікі тыпу: „Не пакідайце ж мовы роднай..."

Але, вяртаючыся да бельскага канцэрта... Хаця публіка была і не малая, аднак — здаецца мне — успрымала музыку неяк халаднавата, калі не лічыць дзяцей, якія ўвесь час танцавалі на пляцоўцы перад сцэнай ды п'яную што раз-пораз лезлі на сцэну, каб заказаць сабе ці сябрам песню.

Што людзям магло не спадабацца? Я думаю, што перш за ўсё змена музычнай манеры гурту, які дабіўся поспеху перад усім стылізаванымі народнымі песнямі. Такія песні — вядомыя ледзь не кожнаму ў нас — прыйшлі менавіта паслухаць бяльчане. Не выклікалі іхняга энтузіязму творы пра наркаманаў ці нейкія іншыя праблемы, выдуманыя маладымі віцебскімі паэтэсамі, або г. зв. калыханкі, якія музыканты граюць на заканчэнне патанцоўкі, калі ўжо ўсе дабраліся парамі. „Грамада" на гэты раз як бы „не вычула" публікі, як не спраўдзіла спадзяванняў жыхароў Гарадка падчас мінулагодняга „Басовішча", калі замест папулярных, зразумелых любому слухачу сваіх песень, заўпарціліся прадэманстраваць нейкую „амбітную" рок-оперу.

Справу ратаваў лідэр гурта Генусь Шэмет, які выступаў таксама ў ролі канферансье. Бавіў ён публіку сваімі жартамі, непасрэднай гутаркай і, урэшце, беларуска-польскай трасянкай. Генусь гаворыць ужо, калі трэба, як карэнны беластачанін — „пёсэнка", „дзісяй", „бардзо дзенкуе" і шмат чаго яшчэ тыпова нашага („сьветне", „калядыя", „самохуд" і г.д.).

Ці апраўдаюцца мае і маіх сяброў надзеі на „Грамаду", ці праз год-два ўжо і заспявае яна па-польску? Пабачым. Сёння яшчэ выконваюць музыку беларускую. І за гэта — дзякуй.

**а.к.**

## ДАБРО І ЗЛО

Так можна ахарактарызаваць верш Д. Шатыловіча „Барацьба", змешчаны ў 32-м н-ры „Нівы". Прыгожы, багаты зместам і думкай, верш кранае сённяшні час. Гэта чалавек сваім розумам, пры дапамозе новых дынамічных галін навукі, стварыў на зямлі дабро і зло. Аўтар трапна выказаў тое, што цяпер праходзіць свет. Гэта людзі ад вякоў ваююць паміж сабою толькі з той прычыны, што аднаму чалавеку не падабаецца другі — сусед, што расце зайздрасць, пагарда і нянавісць да іншых. Сваім розумам чалавек перарос сябе, бо якія смяротныя прылады рыхтуе на другога: атамныя бомбы, самалёты, танкі і шмат чаго іншага. А за патрачаныя на гэта грошы можна лёгка пракарміць усіх галадаючых на цэлым свеце. Чалавек жа як муха — навошта толькі зброі рыхтаваць супраць яго? Чалавечы геній можа стварыць цуды і даць вялікія карысці, але можа і прынесці вялікія страты. Фабрычныя коміны забруджваюць паветра, выклікаюць кіслыя дажджы на нашыя палеткі і сенажаці. Аднойчы бальшавікам захацелася, каб у Сярэдняй Азіі ў пустыні расла бавоўна. Былі выкапаны многія канавы, і, што праўда, бавоўна пачала расці (палавіна яе „расла" на паперы савецкіх эканамістаў) і нібы добра — карысць людзям. Але пры гэтым было знішчана Аральскае мора (а папраўдзе вялікае возера), багатае рыбай, бо дзве рэкі Аму-Дар'я і Сыр-Дар'я, якія туды ўліваліся, перасталі даваць ваду, тая пацякла ў канавы, і мора стала высыхаць. Цяпер з яго асталася салёная і цалкам мёртвая калюга. Людзі, рыбакі, якія там жылі, страцілі і працу і харчаванне — рыбу. Або іншы прыклад — у Расеі цераз Сібір правялі чыгуначную магістраль, БАМ. Нібы гэта добра, але колькі прынесла яна шкоды прыродзе і экалогіі — цяжка палічыць. А вось адзін разумны народ, яўрэі, неяк без страт пераўтварыў сваю краіну, Ізраіль, у сапраўдны сад, і то сярод пустыні!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

 

# ПАСЫЛКА

У час майго абеду ў кухню прыйшоў баўэр Ёзэф Шпанэнкрэбс і сказаў мне:

- Du muß gleich nach Wossenden zur Post gehen und dort ein Paket zunehmen.[1]

- Was für ein Paket? [2] - запытаў я.

- Dein Paket, aus Tscheremcha, von deinen Eltern. [3]

Я здзівіўся. Ніколі я не хадзіў на пошту па пасылку. Заўжды паштальён заносіў яе да швагра Шпанэнкрэбса ў Восендэне, а баўэр, калі ехаў у нядзелю ў касцёл, то яе прывозіў.

- Gut, - сказаў я - ich werde gleich fertig sein.[4]

Я хутка з'еў абед і пайшоў у свой пакой, каб пераадзецца. Мой пакой, у якім я спаў, быў на паддашку. У баўэра быў немалы мураваны дом. З сяней уваходзілася ў доўгую кухню, дзе стаяла кухонная печ, а далей быў вялікі стол да самага акна, пры якім я еў, а з боку - посудны буфет. З сяней управа быў адзін уваход на паддашак, а другі - у пакоі баўэра: адзін вялікі і два меншыя. Сям'я гаспадара ела ў вялікім пакоі. У ім спалі яго тры сыны: Ёзэф, Эрхард і Герун. Баўэр з жонкаю спалі ў малым сярэднім пакоі, а трэці малы пакой стаяў пусты. З сяней улева быў ўваход у другую, паўночную палову дома. Там былі два пакоі, у якіх ніхто не жыў. Яны былі прызначаны для гасцей. Баўэру было ўжо 62 гады. Ён быў невысокага росту, худы, але жвавы. Яшчэ сам запрагаў два кані да плуга і араў поле. Ад першай жонкі, якая ўмерла, меў сыноў. З другой жонкай меў малую дачку. Яе выхоўвалі бацькі жонкі ў суседнім хутары. Да свайго пакоя на паддашку я ўваходзіў па ступеньках. Пры ўсходняй сцяне быў малы пакоік з шырокім драўляным ложкам і дзвюма пярынамі, ды цяжкі стол і крэсла. Акон у пакоі не было і калі я нешта пісаў на стале, то адкрываў насцеж дзверы, каб даходзіла святло. Электрычнага святла ў вёсцы Памэйрэн не было. Каб дайсці да майго пакоя, трэба было прайсці вялікі светлы хол, запоўнены хламам. Стаяў там шырокі комін. Калі я паволі пераапранаўся, баўэр адкрыў унізе дзверы і крыкнуў:

- Aber, du muß schnell gehen, sonst kommst du zu spät![5]

- Чаму ён так мяне гоніць? - думаў я. - У мяне яшчэ многа часу.

Але хутка я ўжо быў гатовы і зышоў на двор. Насупраць дома стаяла вялікая і высокая пуня, дзе хавалі сена, збожжа і машыны. З правага паўночнага боку ад дома стаялі хлявы з коньмі і каровамі, а з левай быў склад для дроў і хвявы для свіней, гусей і курэй. Да гэтага хлява я рэдка ўваходзіў, бо не было патрэбы.

Апусціўшы двор, я выйшаў на дарогу да Восендэн, якая ішла ля нашага хутара. Надвор'е было цёплае, бо быў пачатак чэрвеня і сонца прыпякала. Навокал залаціліся пшаніца, ячмень і авёс і зелянела канюшына. Метраў дзвесце ад нашага хутара стаяў на ўзгорку другі, меншы, дзе працаваў знаёмы паляк Влодэк. Я час ад часу да яго заходзіў. Там жылі немкі і іх стары бацька. Адна з жанчын, прыгажэйшая, была замужняя, але муж яе быў у арміі на Беласточчыне. Другая была старой дзеўкай, гадоў 35. Яны ўсе вельмі добра гаварылі па-польску з лёгкім мазурскім акцэнтам. Калі я прыходзіў да Влодка, то яны запрашалі нас у вялікі пакой і гутарылі з намі, як знаёмыя. Нідзе такіх блізкіх адносін як тут я не сустрэў. Толькі яны ў гэтай вёсцы ведалі польскую мову. Влодэк напэўна жыў са старой дзеўкай як з каханкай, а можа і з абедзвюма. Я яго не пытаўся, бо ён не прызнаўся б, хаця нейкія мне намёкі даваў. Калі б хто данёс уладам аб яго сужыцці з немкай, то яму б пагражала смерць, а ёй - лагер. Ён калісь даў мне пачку прэзерватываў, якія прадаваліся толькі немцам. Відаць яны іх яму куплялі. Трэба аднак сказаць, што хоць нідзе нельга было купіць антыканцэпцыйныя сродкі, ніводная з нашых дзяўчат не зацяжарыла, а пар было многа.

Далей пры дарозе быў вялікі маёнтак і ў ім працавалі двух рускіх ваеннапалонных: Аляксей і Міхаіл. Яны жылі ў малым пакоі ў хляве. Аляксей быў высокі, паходзіў з Белгарада, а Міхаіл, з Іванава, быў невялікага росту. Я часта ў нядзелю заходзіў да іх пагутарыць. Яны нават зрабілі і падаравалі мне балалайку (была яна ў мяне да дня вызвалення). Ім, як ваеннапалонным нельга было далёка адыходзіць ад дома (на наступны год Міхаіл сам дабравольна ўступіў у РОА - армію Уласава. Не пытаўся я яго, якімі ён матывамі кіраваўся).

І вось недалёка ад іх хутара я спаткаў Аляксея з касой на плячы. Вяртаўся ўжо дамоў. Ён вельмі здзівіўся, убачыўшы мяне ў будзённы дзень.

- Здравствуй! Куда идёшь? - запытаў ён мяне.

- Хозяин меня выслал на почту отобрать посылку от моих родителей. Не знаю, что ему пришло в голову высылать меня в будённый день.

- Видно он не хочет, чтобы ты был свидетелем чего-то, - сказаў Алексей, - а я вот косил траву на горке, там косилку нельзя втянуть. Заходи в субботу вечером. Сейчас я спешу.

І мы разышліся. Восендэн, як і іншыя вёскі, была раскінута па хутарах. У цэнтры стаяла некалькі дамоў, пошта і касцёл. На пошце я паказаў свой аўсвайс (пасведчанне) і мне адразу выдалі невялікую пасылку. Я яе не адкрываў і накіраваўся дамоў. Калі я вярнуўся, яшчэ зусім было відна. Пераапрануўшыся, я ўвайшоў у кухню і глянуў на вёдры. Яны былі вельмі тлустыя. Падышоў сярэдні сын баўэра, Эрхард.

- Ich weiß, was ihr gemacht hat,[6] - сказаў я.

- Was? [7] - ён здзіўлены глянуў на мяне.

Я паказаў яму на вёдры:

- Ihr hat ein Schwein abgeschlachtet. [8]

- Pst, - сказаў ён і прылажыў два пальцы да губ. - Niemand kann das wissen.[9]

- Ich werde schweigen, wenn ich das gute Essen bekommen werde, [10] — адказаў я.

Калі б я данёс уладам, што мой баўэр закалоў без дазволу свінню, яму пагражаў бы лагер. Я ведаў, што ён меў у склепе пад падлогай цэнтрыфугу, дзе пераганяў малако і рабіў масла. Рэшту малака ад чатырох кароў аддаваў у малачарню. Я ведаў таксама, што ён употай вазіў пшаніцу да знаёмага, які меў маторны млын і адтуль прывозіў муку. Усё гэта было нелегальна, але навокал усе немцы так рабілі.

Баўэр карміў мяне добра. Мяса было кожны дзень. Акрамя свіней ён меў многа курэй і гусей, а нават крolікаў. Кумпякі вэндзілі на паддашы ў коміне, недалёка майго пакоя. У дзвярах да дымахода вісеў салідны замок, але калі б я быў галодны і даў сыну баўэра Геруну некалькі марак, ён прынёс бы мне кусок шынкі. Ён мне такое няраз прапанаваў, але я не быў галодны ды вэнджанай шынкі не люблю.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

---

1/ Ты мусіш зараз ісці ў Восендэн на пошту і ўзяць там пасылку.

2/ Якую пасылку?

3/ Тваю пасылку з Чаромхі, ад тваіх бацькоў.

4/ Добра, я буду хутка гатовы.

5/ Так, хутчэй ідзі, бо позна прыйдзеш.

6/ Я ведаю, што вы зрабілі.

7/ Што?

8/ Вы свінню закалолі.

9/ Ніхто не можа аб гэтым ведаць.

10/ Я буду маўчаць, калі буду мець добрую ежу.




## ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

### ЧАСТКА IX

Дагэтуль я стараўся выказваць толькі свае погляды на справу вайсковага саюза Беларусі з Расіяй. Аднак, так я, як і нашыя чытачы жывем у Польшчы і не маем непасрэднага ўплыву на ход беларускіх падзей, у тым ліку і на вайсковыя справы. У такой сітуацыі можа ўзнікнуць пытанне, ці такога тыпу меркаванні і характарыстыкі ўвогуле маюць сэнс. Думаю, што маюць, а гэта таму, што беларускі народ і яго дзяржава выходзяць з той вялікай ізаляцыі, у якой знаходзіліся на працягу многіх гадоў савецкай рэчаіснасці. Грамадзяне Беларусі і яе ўрад павінны ведаць, што думаюць аб такіх ці іншых палітычных справах беларусы, раскіданыя па шырокім свеце.

Здаецца мне, што разглядаючы справу вайсковага саюза Беларусі з Расіяй варта адклікацца таксама да думак і ацэнак грамадзян рэспублікі Беларусь. Знаходзячыся ў Беларусі на працягу апошніх месяцаў, стараўся я ўвайсці ў кантакт з рознымі катэгорыямі людзей з той мэтай, каб даведацца, што яны думаюць аб вайсковым саюзе з Расіяй. Адразу скажу, што ў гэтай справе няма аднагалоснасці, а розныя асобы выказваюць вельмі супрацьстаўныя погляды, думкі і ацэнкі. Адны з іх горача падтрымліваюць ідэю вайсковага саюза з Расіяй, другія адносяцца да яе вельмі непрыхільна, трэція праяўляюць абыякавасць. Усё гэта сведчыць аб тым, што ўжо даўно скончыўся перыяд „сацыялістычнай аднадумнасці", калі аграмадная большасць грамадства механічна паўтарала тое, што было заяўлена ўрадам або партыяй. Сёння амаль кожны чалавек мае свой уласны пункт гледжання і, што важнае, не баіцца гэты пункт гледжання выказаць, прапагандаваць яго і бараніць.

Сёння я прывяду выказванне прыблізна сямідзесяцігадовага мужчыны, гарачага старонніка поўнай еднасці Беларусі з Расіяй. Размоўца мой гаварыў выключна па-руску і таму яго выказванне перадаю ў перакладзе на беларускую мову:

„Ваенны саюз з Расіяй? Ён нам патрэбен як мозг і кроў у арганізме. Калі Беларусь не хоча знікнуць з паверхні зямлі, мусіць трымацца з Расіяй. Я быў, ёсць і буду беларусам, але ніколі не кіну каменем у Расію. Я ад сяржанта дайшоў да звання палкоўніка. Ваяваў на сталінградскім і курскім франтах, вызваляў Кракаў, Сілезію і браў Берлін. З кім усё гэта я рабіў? З рускімі і прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў, якія жылі ў СССР. Бачыш, знайшліся разумнікі тыпу Гарбачова і Ельцына, развалілі наш дом. Тое, над чым напорыста ўсе савецкія людзі толькі гадоў працавалі, знішчана на нашых вачах на працягу пяці гадоў. Толькі падумаць! Вы бачылі, як у час першамайскай дэманстрацыі малойчыкі-галаварэзы Ельцына ўладкавалі ветэранаў? Палкамі паразбівалі ім галовы, залілі крывёю. Гарбачовы і Ельцыны давялі народ да нэндзы, а самі жывуць у такой раскошы, якая нават не снілася царам і каралям. Гэта яны нацкавалі на сябе нашы народы. Гэта яны хочуць, каб беларус і ўкраінец бачыў ворага ў рускім і наадварот. Такія неадказныя людзі давядуць ва ўсім былым Савецкім Саюзе да таго, да чаго ўжо давялі ў Азербайджане, Грузіі, Асеціі, Абхазіі, на паграніччы з Афганістанам. Будзе бяда для ўсіх. Ваенны саюз з Расіяй — гэта ратунак для Беларусі і гарантыя яе бяспекі. Аднак, мне здаецца, што ўжо запозна на пазітыўныя дзеянні. Ці ж могуць нас аб'яднаць Гарбачовы і Ельцыны, якія нас раздзялілі? Яны толькі могуць нас павесці ў хаос і смерць".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

## ЗВЫЧАЙНАЯ ФАСОЛЯ

Фасоля звычайная (*Phaseolus vulgaris* L.) гэта аднагадовая расліна, якая паходзіць з Паўднёвай Амерыкі (галоўным чынам з Перу і Чылі), але сёння яе садзяць у многіх краінах свету, у тым ліку і ў нас. Выступаюць два асноўныя віды фасолі — першы, калі галінкі фасолі растуць да 4 м даўжыні і патрабуюць падпоры, і другі, з невіючыміся галінкамі, які расце толькі да вышыні паўметра (карлікавыя гатункі). Існуе каля 500 відаў фасолі, якія адрозніваюцца формай, колерам кветак, струкоў і насення, а таксама іх велічынёю. Фасолю вырошчваюць для спажывецкіх мэт — на сухое насенне і дзеля недаспелых струкоў (спаржовыя гатункі). Насенне фасолі вельмі багатае бялком.

Лячэбнай сыравінай з'яўляюцца выключна струкі фасолі, якая цвіце белымі кветкамі. Збіраюць спелыя, жаўтаватыя струкі і, выняўшы з іх насенне, сушаць у цяністым і прадуўным месцы або ў ацяпляемай сушарні. Атрымліваюць сыравіну — струкі фасолі (*Pericarpium Phaseoli*).

Найбольш вядомы мачагонныя якасці вадзяных экстрактаў са струкоў фасолі. Чым слабей функцыянуюць ныркі, тым мацней уздзейнічаюць на іх гэтыя прэпараты. Сцверджана таксама, што гэтая сыравіна вельмі падыходзіць да мяшанак з іншай мачагоннай сыравінай. Дзякуючы гэтаму, можна атрымаць даволі моцны эфект пры лячэнні прэпаратамі расліннага паходжання.

На практыцы, аднак, большае значэнне мае лячэнне дыябету (цукрыцы) струкамі фасолі, асабліва паспяховае яно ў пачатковай стадыі хваробы. Сцверджана, што ў гэты перыяд можна атрымаць не горшыя вынікі, лечачы зёлкамі (вядома, пры адпаведнай дыэце), чым сінтэтычнымі прэпаратамі.

Такім чынам адвары са струкоў фасолі паспяхова прымяняюць пры хваробах нырак, мачавода і мачавога пузыра, калі выдзяленне мачы вельмі малое, а таксама калі выклікае гэта ацёкі ў выніку затрымання вады ў арганізме. Разам з павялічанай колькасцю мачы выкідаюцца з арганізма шкодныя прадукты, узнікаючыя падчас абмену рэчываў. Гэта дае добрыя вынікі пры запальных станах мачавых шляхоў і каменнях, а таксама пры рэўматызме.

У пачатковым перыядзе дыябету (цукрыцы) струкі фасолі паспяхова выкарыстоўваюцца ў спалучэнні з іншай раслiннай сыравінай, як, напрыклад, у зёлкавай мяшанцы „*Diabetosan*" („**Herbapol**"). Нават пры далейшых стадыях цукрыцы можна прымяняць гэтыя зёлкі як дапаможны сродак, асабліва ў маладых людзей.

**Адвар са струкоў фасолі**

3—4 лыжкі раздробленых струкоў заліць 2 шклянкамі цёплай вады, паставіць на 3—5 гадзін, каб набрынялі, пасля варыць пад покрыўкай 3 мінуты. Настаяць 15 мінут і працадзіць. Піць 2—3 разы ў дзень па 1/2 шклянкі паміж ядой. Гэта мачагонны і дапаможны сродак пры рэўматычных хваробах.

**Зёлкі ад каменняў у нырках**

Змяшаць па 50 г разробленых струкоў фасолі і лісця чарніц, а таксама па 20 г лісця талакнянкі звычайнай (mącznicy lekarskiej — *Arctostaphylos uva-ursi* L.), зёлак братак, песцікаў кукурузы і кветак верасоў. Заліць 1 лыжку зёлак 1 шклянкай гарачай вады і гатаваць на малым агні пад покрыўкай 2-3 мінуты. Настойваць яшчэ 15 мінут, тады працадзіць. Піць па 1 шклянцы цёплага адвару 2—3 разы ў дзень паміж ядою прафілактычна, калі аналіз мачы ўказвае на прысутнасць мінеральных рэчываў.

**Зёлкі ад падагры**

Змяшаць па 30 г струкоў фасолі, кветак першацвету, аўсянай саломы, лісця бярозы і лісця чорнай парэчкі. Заліць 3 лыжкі зёлак 2 1/2 шклянкамі цёплай вады і паставіць пад покрыўкай на пары на 30 мінут. Настойваць яшчэ 5 мінут, тады працадзіць. Піць порцыямі на працягу дня паміж ядою.

**ЭСКУЛАП**



 

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, МІЛЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Вітае Вас Вашая "Зорка"! І я сёння завітала ў школу першы раз пасля апошніх канікулаў. Маю надзею, што мы не адзін раз сустрэнемся. Чакаю Вашых лістоў, вершаў, апавяданняў, здымкаў. Раскажыце, як там Вашыя школьныя і асабістыя справы. Будзем друкаваць Вашыя допісы ў першую чаргу ў НАШАЙ газеце. Чакаю з нецярплівасцю Вашых лістоў!

"Зорка"

## РАМОНКАВАЕ ПОЛЕ

Яшчэ зусім нядаўна тут залатым калоссем шумела высокая збажына. А над ёй, у блакіце высокага неба, нязмоўклымі званочкамі ліліся песні вясёлых жаўрукоў.

У канцы лета жыта зжалі. Па ўсім полі ўзняліся залацістыя сцірты духмянай саломы. І амаль на кожнай птушка сядзіць - варона, сарока альбо канюк.

І вось у адно вераснёўскае ранне ўвесь іржэўнік раптам застракацеў белым рамонкам.

Летам густая збажына ўсё цяпло забірала, не давала кветкам узняць да сонца свае бела-жоўтыя галоўкі. А калі збажыны не стала, рамонкі дыхнулі на поўныя грудзі свежым верасёнўскім паветрам і дружна застракацелі на пачарнелым пад даждамі ржэўніку.

Гэта было вельмі прыгожае відовішча. Усе пералётныя птушкі, якія спяшаліся на поўдзень - берасцянкі, дразды, канаплянкі, - садзіліся адпачываць менавіта на рамонкавае поле. А аднойчы нават журавы прыпыніліся на ім, хоць поле тое блізка знаходзіцца ад вёскі. Вялікія шэрыя птушкі паважна пахаджвалі, задуменна пазіраючы па баках.

Здалёк здавалася, быццам не журавы, а жвавая вясковая дзятва рассыпалася па чэрвеньскім лузе, збіраючы духмяныя кветкі.

РЫГОР ІГНАЦЕНКА

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ

## МОСТ

Збіраюцца дзеці, становяцца пара за парай і спяваюць якую-небудзь песню. Той, каму не хапіла пары, ідзе пад мост, гэта значыць пад выцягнутыя рукі дзяцей, і разбівае якую-небудзь пару, ідзе праз увесь мост і становіцца ззаду. А той, хто застаўся без пары, у сваю чаргу ідзе праз мост і вядзе за сабой каго-небудзь.



*Кандрат і Мартынка.* Фота М. Лукшы

БЕЛАРУСКІЯ РАМЁСТВЫ

## СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ

Мабыць, усе ведаюць радкі Максіма Багдановіча:

*...І тчэ, забыўшыся, рука*
*Заміж персідскага узору*
*Цвяток радзімы васілька.*

Гэтыя радкі прысвечаны майстрыхам, якія ткалі славутыя ядвабныя паясы - абавязковы атрыбут колішняга шляхецкага касцюма. Мануфактура па іх вырабу ("персіярня") працавала ў Слуцку з сярэдзіны XVIII да сярэдзіны XIX стагоддзя. Напачатку, калі на мануфактуры працавалі прыезджыя турэцкія майстры, паясы капіравалі вырабы з Блізкага Усходу. Затым былі падрыхтаваны мясцовыя майстры ядвабнага ткацтва, вырабы набылі тыпова мясцовы характар, атрымалі назву слуцкіх, пад якой і ўвайшлі ў гісторыю мастацтва. Змяніўся характар арнаменту, у яго шырока ўключаліся нацыянальныя матывы, кветкі мясцовай флоры - васількі, незабудкі і іншыя. Палосы іх раўнамерна размяшчаліся ўпоперак па сярэдніку, канцы дэкараваліся букетамі кветак, часам абшываліся махрамі. На ражку пояса змяшчалася метка: "Слуцк", "Зроблена ў Слуцку", "У горадзе Слуцку". Вельмі эфектна выглядалі так званыя "літыя" паясы. Іх ткалі залатымі ніткамі па ядвабнай аснове, затым пракатвалі паміж металічнымі валамі: вырабы станавіліся нібы металічныя.

З пачатку XIX стагоддзя попыт на паясы прыкметна знізіўся. Некаторы час ядвабныя паясы тыпу слуцкіх ткалі ў Гродне, Ружанах, Кракаве, Ліпкаве і Кабылках пад Варшавай. Слуцкая мануфактура перайшла на выраб залатых і сярэбраных галуноў, ядвабных пакрывалаў, тканін для літургічнага ўжытку, а ў сярэдзіне XIX стагоддзя ўвогуле перастала існаваць. Слуцкія паясы сталі рэдкасцю, іх пачалі калекцыяніраваць. Сёння слуцкія паясы ўпрыгожваюць экспазіцыі многіх музеяў свету.

ЯЎГЕН САХУТА

*ВІКТАР ШВЕД*

### УНУК ШУКАЕ ХВАЛЮ

Дзедка пры нядзельцы
Заснуў сном хрыпучым.
Гузік ў камізэльцы
Круціць яму ўнучак.

- Што ты вычвараеш? -
Дзед прачнуўся з жалем.
- Дзедачка, шукаю
Я новую хвалю.

### АДАМ І ЕВА

Цікаўная малая
Просіць ласкава маму:
- Скажы мне, як у раю
Ева жыла з Адамам?

- Яны ж таксама, доня,
Як мы, людзьмі завуцца.
Яны, як мы сягоння,
Не мелі ў што апрануцца...

* * *

*МІКОЛА БУСЬКО*

### КАЗКА-ЗАГАДКА

Калоссямі жыта
Цягнулася ў высі...
Паклаў яго, зблытаў
Нягоднік якісьці.

- Хто гэта, скажы нам,
Траву, як наўмысна,
Нібыта спружынай,
Дадолу прыціснуў?

Пасля на падворку
Тварыў беспарадкі:
Падняў пыл да зорак,
Пагойсаў па градках.

То раптам злым воўкам
Завые працягла,
То дыму вяроўку
Ён з коміна цягне.

Навобмацак, спехам
Звязаўшы сіло,
Відаць, для пацехі
Памчаў за сяло.

Круціўся на месцы
З травінкамі шпарка.
Ад страху аж месяц
Схаваўся за хмарку.

Пасля адным мігам
Адсюль напрасткі
Памчаў цераз выган
Да сіняй ракі.

У лес, цераз поле
Панёсся імкліва,
На пожні сваволіў,
Стог тузаў за грыву.

Ды раптам яшчэ як
Ваўсю зарагоча.
Настрашыць Кашчэя,
Напэўна, ён хоча.

А Нёман уздыбіў
Нябачнай рукою,
Аж бліскала рыба
У паветры луской.

Надрэчныя чайкі
Наўзрыд галасілі
І болей спрачацца
Не мелі ўжо сілы.

Пабег па карчэўі:
Кара адлятала.
Насупраць знячэўку
Сцяна лесу ўстала.

Пачуўшы той рогат,
Лясун бездакорны
Сыпнуў на разлогі
Расiначак-зораў.

Яны абляпілі
Ягоныя крылы -
Рвануўся з усхліпам -
Ды сіл не хапіла.

Пагнаўся сабакам
За ўласным хвастом...
Бы хмарка, заплакаў
І лёг пад кустом.

Адразу над светам
Зрабілася ціха...

- Скажыце, хто гэта?
А гэта быў
ВІХАР.

*ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ*

# ЛІСІЦА

Лісіца ў Беларусі сустракаецца паўсюдна. Селіцца ў разрэджаных лясах, на парослых гарах і вырубках, якія чаргуюцца з лугамі і пашай, у лісцёвых і змешаных лясах, па берагах рэк і вадаёмаў. Даўжыня яе цела 60 - 90 сантыметраў, маса 7 - 8 кілаграмаў. Невысокі моцны звер, ногі з апушанымі падэшвамі, вострая, выцягнутая мордачка, даволі вялікія стаячыя завостраныя вушы, доўгі (да 65 сантыметраў) прамы пушысты хвост і вялікія з вертыкальнай зрэнкай вочы. Поўсць рыжая. Зрэдку сустракаюцца асобіны зусім белыя - альбіносы.

Са студзеня па сакавік ідуць лісіныя "вяселлі". На ўзлесках можна ўбачыць, як некалькі вялікіх лісоў з ледзь чутным брэхам гоняцца за невялікай спрытнай ліскай. У гэтым месяцы снег густа пакрыты слядамі, а навокал валяюцца рыжыя касмыкі выдранай лісінай поўсці. Нару лісіца рые ў зарасніках хмызняку, пад каранямі дрэў або старых пнёў у сухім лесе, іншы раз на схіле зарослага яра. Займае кінутыя барсучыныя норы.

З густога хмызняку выглядвае мордачка невялікага рыжага лісяняці. Яшчэ зусім нядаўна яно жыло ў глыбокай нары, чакаючы, калі бацькі прынясуць зайчаня, мышку, птушачку, іншую жыўнасць. З таго часу прайшло каля двух месяцаў. Лісяняты выраслі і, хоць жывуць яшчэ разам з бацькамі, часта пакідаюць сваё сховішча, спрабуючы самастойна здабыць ежу. У прыплодзе лісіцы -- 4-12 лісянят. У жніўні - верасні прыплоды распадаюцца, і звяры жывуць па адным. Лісіца корміцца мышамі (за суткі можа з'есці да 80 мышэй), зайчанятамі, птушкамі, якія гняздзяцца на зямлі, жабамі, яшчаркамі, мёртвай рыбай, сакавітымі часткамі травяністых раслін, ягадамі і насякомымі.

**А. КУРСКОЎ**

# СВЕЦІК

*Свецік з бабуляй Верай у фае Вялікага тэатра ў Менску.*

Дзевяцімесячны Свецік, а па-даросламу Светавіт, сын Ані Бартуль і Сяржука Сокалава-Воюша, быў наймалодшым удзельнікам Першага з'езда беларусаў свету. Ляцеў самалётам у Менск шмат тысяч кіламетраў, бо нарадзіўся ён і пражывае ў Нью-Йорку, у раёне Квінс.

Праўда, большасць часу на з'ездзе Свецік, з бел-чырвона-белай істужкай на яшчэ лысенькай галоўцы правёў не ў зале пасяджэнняў, а ў фае Вялікага тэатра оперы і балета. Там ён спаў у сваёй калысцы або пасмоктваў малако з бутэлькі, якім карміла яго бабуля, спадарыня Вера Бартуль, але часамі і дурэў, прабаваў хадзіць, трымаючыся руч-кай за нейкую маладзенькую дзяўчыну.

Свецік найбольш ажывіўся ўсё ж у зале пасяджэнняў, калі давалі канцэрт для дэлегатаў з'езда. Мама з татам унеслі Свеціка ў залу, бо ведалі, што цяпер ужо малы не будзе нікому перашкаджаць. Музыку ён любіць! І сапраўды. Як толькі Свецік пачуў сваю любімую "Лявоніху", ён пачаў танцаваць, падскакваць на каленях сваёй мамы, быццам нейкая пушынка, а не пузаценькі хлопчык. Няма для Свеціка лепшай мелодыі, чым "Лявоніха"!

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота аўтаркі**

# ПІЦЕ ЧЫСТУЮ ВАДУ!

У развітых краінах хлараванне пітной вады забаронена, таму што злучэнні хлору шкодныя для здароўя людзей. Таму ваду азануюць.

Як жа нам абясшкодзіць хаця б часткова пітную ваду?

Перш за ўсё яе трэба адстойваць. Вытрымлівайце ваду з-пад крана не менш трох гадзін у шкляным посудзе.

Наступная рэкамендацыя - карыстайцеся толькі кіпячонай вадой. Небяспека сырой вады не толькі ў хваробатворных мікробах, але і ў іншым. Накіп у чайніку - гэта солі кальцыя і іншых металаў. Менавіта кіпячэнне забірае з вады іх лішак. Што такое лішак кальцыю ў арганізме, ведае амаль кожны - гэта адклады соляў, а значыць - радыкуліт, камяні ў нырках, хрусткія суставы і г. д.

Трымайце на кухні два трохлітровыя слоікі. У адным адстойвайце сырую ваду, каб выйшаў хлор, у другім - кіпячоную.

Акрамя таго, ваду са слоікаў злівайце асцярожна і не да канца.

Урачы рэкамендуюць мыць малышоў, паласкаць горла толькі астуджанай кіпячонай вадой.

Можна яшчэ лепш ачысціць ваду. Наліце кіпячоную ваду ў бляшанку і пастаўце ў маразілку халадзільніка. Праз 12 гадзін дастаньце бляшанку з халадзільніка, абліце яе дно і бакі гарачай вадой, з бляшанкі выпадзе ледзяны цыліндр. Каб аддзяліць чыстую ваду ад бруднай, раскаліце лёд папалам і прамыйце, пратайце жаўтаватую сярэдзіну. Застанецца чысты лёд. Гарбата, прыгатаваная на вадзе з гэтага ільду, вельмі смачная і карысная.

Піце такую ваду па глыточку, як лекі.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Настаўнік пытаецца ў вучня:
- Скажы, Ваня, хто быў бацькам Людовіка Шаснаццатага?
- Людовік Пятнаццаты.
- Так. А хто быў бацькам Карла Сёмага?
- *(радасна)* Карл Шосты!
- Выдатна. А хто ж быў, будзь ласкавы, бацькам Францыска Першага?!
- ?!

* * *

Настаўнік пытаецца ў вучня:
- Якія зубы ў чалавека з'яўляюцца апошнімі?
- Штучныя...

* * *

Настаўнік апавядае вучням гісторыю адкрыцця Амерыкі Калумбам і ў канцы сваёй гутаркі кажа:
- І ўсё адбылося амаль пацьсот гадоў таму назад.
- Ты глядзі! Ну і памяць у вас! - шчыра здзівіўся адзін вучань.

* * *

- Ці ведаем, якім чынам прымусіць курыцу несці звараныя яйкі?
- Як?
- Давай ёй піць кіпецень!

* * *

- Якая будова Сонечнае сістэмы? - запытаўся настаўнік у вучняў.
- Сонечная сістэма складаецца з вялікай колькасці малых планетаў і малой колькасці вялікіх планетаў, - пачулася ў адказ.

* * *

Сын спяшаецца ў дзіцячы сад, каб сустрэцца з сябрам Сяргеем.
- А што вы робіце з ім? - пытаецца мама.
- Б'емся!

**Запісаў Янка Зарэчны**

# ПАЯДЫНАК

Невысокага росту ляснічы, хударлявы, сутулены, з кароткімі рыжымі вусамі і рэдкай бародкай быў падобен на сапраўднага лесавічка. Пад старым разгалістым дубам, што рос на палянцы, ён ціхім голасам даваў парады фатографу:

- Вунь там, за бродам пачынаецца вялікі імшарнік. Апранай гумавыя боты, каб не падмачыцца. За бродам будзе мысок дубровы... За ім пачынаецца балота. Каля мыска якраз і б'юцца на світанні ласі. Толькі асцярожна... Днямі адна наша жанчына збірала журавіны. Напаў на яе лось... Яна так перапужалася, што і не помніць, як з балота выбралася. Будзь асцярожны, бо хто ведае, што ў галаве раз'юшанага лася. Калі што не так - хутчэй на дрэва. Не шумі, бо лось можа з'явіцца нечакана...

Апоўначы фатограф абуў гумавыя боты, апрануў ватоўку. Зарадзіў плёнкаю апарат, праверыў, ці спраўны.

Задоўга да світання ён перабраўся праз брод і затаіўся за невялікім стажком каля ўзлесся. Тут, на выкашаных чыстых прагалінках між кустоў алешніку і лазы, сыходзіліся на бойку ласі.

Неба было цемнаватае, зорнае. Але неўзабаве яно стала цёмна-шэрае, зніклі зоркі. Над лесам, над балотнымі імшарамі лёг густы туман. У ім патаналі, глухлі ўсе гукі і шолахі.

Прысланіўшыся да стажка, фатограф і не прыкмеціў, як задрамаў. Абудзіў яго чалавечы голас. Здавалася, што нехта заблудзіўся ў балоце і гукаў прыглушаным хрыплаватым голасам, прасіў дапамогі.

Дрымоту як рукой зняло. Фатограф закінуў сумку з фотаапаратам за спіну і, адгукаючыся, пайшоў напрасткі праз балота. Раптам чалавечы голас прагучаў у другім баку. Фатограф спыніўся - ці не мроіцца яму. Прыслухаўся. У гэты ж момант зусім блізка наперадзе пачуўся стогн чалавека, які быццам трапіў у багну і не мог выкараскацца з яе.

Сонца паднялося ўжо, але яго не было відаць з-за туману. У імшарніку яшчэ трымаўся шэры змрок. Раніца была з прымаразкам. Мохавыя купіны, на якіх стаялі невысокія заскарузлыя хвойкі і бярозкі, пасерабрыліся. Чырвоныя журавіны ад інею пабялелі, а зеленаватыя галоўкі моху, што слаўся між купінкамі, пасівелі.

Фатограф прайшоў яшчэ мо якіх сто метраў і стаў як укопаны. Перад ім, як здані, выплылі з туману два вялізныя ласі. Апусціўшы галовы, выставіўшы наперад галінастыя рогі, яны на нейкае імгненне знямелі і стаялі нерухома. Потым кінуліся адзін на аднаго.

Стукнуліся рогі аб рогі, затрашчалі. Звяры ўпіраліся, разварочвалі капытамі купіны, мох - хто каго перасіліць. Але ніводзін не здаваўся. Вось ласі ўпалі на калені. Потым падхапіліся, адбегліся трохі і зноў кінуліся адзін на аднаго. Зноў затрашчалі рогі.

Здавалася, барацьба ішла не на жыццё, а на смерць.

Але вось адзін супернік не вытрымаў націску і пахіснуўся. Гэтага было дастаткова. Другі мацней націснуў і паваліў яго. Пераможны не паспеў падняцца, як атрымаў яшчэ ўдар.

Хутчэй трэба ратавацца, уцякаць. Лось падхапіўся і з усіх ног падаўся прэч. Пераможца пагнаўся за ім.

Ласі зніклі ў тумане.

Фатограф стаяў як зачараваны і не мог уцяміць, што перад ім было - сон ці ява. Захоплены незвычайным відовішчам, ён забыўся, дзеля чаго сюды і прыйшоў.

Зноў пачуўся стогн. Толькі цяпер фатограф зразумеў, што гэта быў баявы кліч лася.

Рассеяўся туман. Свяціла зыркае сонца. Заіскрыліся промні ў кроплях расы.

Трымаючы напагатове апарат, фатограф асцярожна, ціха ступаючы, крануўся на ласіны стогн.

Неўзабаве ён выйшаў на невялікі чыстую грудок, дзе расло некалькі маладых дубкоў. Ласі раўлі, стагналі навокал, але не трапляліся на вочы.

Фатограф пасмялеў. Ён махнуў рукою на парады ляснічага, маўляў, той яго напалохаў. Нават пачаў думаць, што ласі ад яго ўцякаюць. Вунь жа ходзяць паблізу, равуць, а блізка не падпускаюць.

Фатограф перастаў асцерагацца, страціў пільнасць. Ён спыніўся каля пня, паклаў на яго апарат, дастаў з кішэні цыгарэты...

Лось з'явіўся нечакана, быццам здань. Апусціўшы галаву, выставіўшы рогі, звер пёр напралом.

Фатограф схапіў апарат і - на пень. Але не паспеў пстрыкнуць затворам: вельмі ж хутка скарачалася адлегласць паміж ім і ласём.

Чалавек не вытрымаў. Сарваўся з пня, куляю даляцеў да дубка і, як тая рысь, хутка і спрытна ўзабраўся на дрэва.

Чалавек адной нагой стаяў на тонкай галінцы, абхапіўшы рукамі ствол. Рукі дрыжалі. Ногі дрыжалі. Фотаапарат ляжаў на доле пад дубком.

Загнаўшы чалавека на дрэва, лось павярнуў назад. Ён годна ўзняў галаву - на ёй вялізныя рогі, па восем касцяных адточаных сукоў. Пастава гордая, як у пераможцы.

Ён жа і сапраўды перамог: слабейшы ўцёк ад яго.

Праз хвіліну, другую быў чуваць у імшарніку стогн: лось выклікаў на бой таго, хто яшчэ хацеў памерацца з ім сваёй сілаю.

**ЗМІТРО БЯСПАЛЫ**

# НІЎКА

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Няверны** — у Нью-Йорку той, хто не верыць у Хрыста, у Канстанцінопалі — той, хто верыць. Гэта нягоднік, які несур'ёзна ставіцца да і зусім не ахвяруе грошай на: святых, святароў, пап, канонікаў, манахаў, мул, ву-ду, прэсвітэраў, прэпатаў, абатаў, манашак, місіянераў, хаджы, муэдзінаў, брамінаў, шаманаў, пілігрымаў, імамаў, архіепіскапаў, епіскапаў, абатыс, равінаў, евангелістаў, адвентыстаў, ламаў, дэрвішаў, кардыналаў, муфціяў і г.д. і д.т.п.

**Нянавісць** — пачуццё, якое выклікаецца фактам, што іншы чалавек у чым-небудзь лепшы за вас.

**Паветра** — вельмі спажыўная субстанцыя, якую вышэйшая сіла стварыла для бедных.

**Падслухаць** — выпадкова пачуць спіс сваіх ці чужых злачынстваў альбо заган.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*

## СМЕХАТЭРАПІЯ

**Медыцына**

Два тыдні ўрачы ставілі на ногі грамадзяніна Букіна, які выпіў адзін дзве бутэлькі гарэлкі. А вось грамадзяніна Запоева, які разбіў дзве поўныя бутэлькі, выратаваць не ўдалося.

**Грошы**

Юбілейны манетны двор выпусціў у абарот манету з чыстым адваротным бокам і без пазначэння наміналу. Цяпер кожны можа выгравіраваць на ёй свой партрэт і нанесці любы намінал мясцовай валюты.

**Прапажа**

Учора ў прыватным аўтамабілі зялёнага колеру забыта сумка з 20 бляшанкамі чорнай ікры. Просьба да вадзіцеля: каб ты падавіўся.

**Гісторыя**

Знойдзены ў архівах апошні ўказ Л. І. Брэжнева: „Узнагароджваю сябе шостай Залатой Зоркай Героя Савецкага Саюза (пасмяротна)".

**Палітыка**

Лідэры пракамуністычнага руху „Нашы" прапанавалі ўвекавечыць імёны М. Калініна, В. Куйбышава і Я. Свярдлова, змяніўшы ім прозвішчы адпаведна на Цвярской, Самарын і Екацерынбуржцаў.

**Час**

Міністэрства стандартызацыі прапанавала праект увядзення не толькі летняга і зімовага часу, але і чэрвеньскага, ліпеньскага, жнівеньскага і г.д. часу.

**Цэны**

Аказваецца, шакіруюць не столькі новыя цэны, колькі старыя, якія яшчэ захаваліся на ўпакоўках тавараў.

*„Звязда"*

*Малюнак Валерыя Вярцейкі*

## АДЗІНАЕ ВЫЙСЦЕ

— Гэй, ты што на даху робіш?
— Я — самазабойца.
— А-а, тады добра. А каністра навошта?
— Падпалюся і кінуся, каб напэўна.
— Напэўна ў нас нічога не можа быць. Час такі.
— А што мне перашкодзіць?
— Зачэпішся за што-небудзь.
— А я тады камень на шыю ды з моста.
— Ды зараз захламілі ўсе рэкі. Упрэшся ў якое-небудзь смецце і будзеш боўтацца над вадой, як гарлачык.
— Тады застрэлюся!
— Не. Ці ўбок куля паляціць, ці порах вільготны будзе. Зараз робяць абы-як.
— Пад цягнік кінуся!
— Яны затрымліваюцца.
— Павешуся я!
— А будуюць жа! Ці крук не вытрымае, ці вяроўка парвецца.
— Грыбоў ядавітых наемся!
— А зараз невядома, якія ядавітыя, а якія не.
— Голадам сябе замару!
— Не зразумеў.
— Голадам сябе замару!
— А мы ўсе чым займаемся? На гэта якраз усё жыццё пойдзе.
— Мужык!
— Што?
— Што ж мне рабіць?
— А выйсце ў нас толькі адно. Трэба пачаць жыць добра! Як пачнеш жыць добра, дык цябе адразу і прыстукнуць.

**АНАТОЛЬ ТРУШКІН**

## ТОСТЫ

Была ноч. Цішыня. Месяц... Ён і яна.
Ён сказаў: „Так". Яна сказала: „Не".
Прайшлі гады.
Была ноч. Цішыня. Месяц... Ён і яна.
Яна сказала: „Так". Ён сказаў: „Так".
Але гады былі ўжо не тыя.

Дык давайце вып'ем за тое, каб усё ў жыцці рабілася своечасова.

* * *

Вып'ем за жонак і любоўніц, за тое, каб яны ніколі не сустрэліся!

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Хто табе падбіў вока?
— Выцягваў дзяўчыну з вады...
— І яна табе так прылажыла?
— Не, у гэты момант увайшла жонка ў ванную.

* * *

Прыходзіць дачка да маці і гаворыць:
— Мамачка, я зацяжарыла...
— А дзе ж ты мела галаву, дачушка?
— Пад рулём, мамачка.

* * *

— Ці знаеш, што здарылася маёй жонцы?
— Не.
— Лягла ў ванну, адкруціла ваду і заснула.
— Пэўна ўсю кватэру заліло?
— Не, на шчасце яна спіць з адкрытым ротам.

* * *

Студэнтка медыцыны вяртаецца ноччу дамоў. З кустоў выбягае мужчына і распранаецца перад ёю. Дзяўчына глядзіць на яго і кажа:
— Выглядае як атрыбут мужчыны, толькі намнога меншы.

* * *

— Каханая, ці не саромішся распрануцца дагала ў гінеколага? — пытае муж жонку.
— Чаму мела б саромецца, ён жа такі самы, як і іншыя мужчыны.

* * *

Любоўнік-дэбютант вельмі далікатна абыходзіцца ў ложку са сваёй каханкай. Яна са злосцю глядзіць у столь.
— Аб чым думаеш, каханая?
— Каб на цябе слон наступіў.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**

## МУРАШ І СЛОН

*Байка*

Мураш лічыў сябе
  дужэйшым за Слана:
Той не падыме груза, як ён сам.
Мураш падыме Мураша —
  вядома ўсім здаўна,
Куды з ім сілай мерацца Сланам!
І вось рашыў саманадзейна,
  што пара
Уперціся і камень тут звярнуць.
Ад тупату Слана
  каменьчык скінуўся з бугра,
І не паспеў Мураш
  ні ўверх, ні ўніз зірнуць.

Не пераацані свае ты сілы,
Глядзі, каб каменем цябе
  не раздушыла.

**МІКОЛА ВЯРШЫНІН**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мо ўсё было б добра, калі б жонка не знайшла майго дзённіка, які вёў я шмат гадоў, ад дзяцінства. А так, здавалася, хаваў, што не было моцных, каб знайсці яго. Пісаў яго заўсёды, калі жонка адлучалася з дому, або ўсе спалі. Хаваў яго глыбока ў сваіх паперах, куды нікому не дазвалялася заглядаць, каб нічога не пераблытаць.

Як жонка яго знайшла, дасюль не магу здагадацца, але знайшла і прачытала. Ужо не саромеючыся нават за гэты кампраметуючы яе чын, сама да гэтага прызналася і выгарнула мне ўсё, што накіпела ў яе на душы.

Я пісаў шчыра — сабе, для ўспамінаў, а не для публічнага чытання. Нікога (у тым ліку і сябе) не ашчаджаў, пісаў, як было. А бывала ў жыцці рознае. Пяць гадоў, якія я правёў з жонкай, таксама не заўсёды былі ружовыя. Мы пажаніліся, калі я яшчэ заканчваў універсітэт у Варшаве, і яна год жыла з бацькамі ў Беластоку, выхоўваючы нашу дачушку. Я толькі прыязджаў на суботу і нядзелю.

А ў Варшаве (як у сталіцы) здараліся цікавыя рэчы. Бог мне сведкам — я не хацеў здраджваць жонцы. Аднак жа бывалі такія сітуацыі, калі чалавек пераспіцца з дзяўчынай і пра ўсё забудзе. Мы ж былі маладыя, студэнты. Часта сустракаліся ў кампаніі. З сексу мы тады не рабілі праблемы. Але жонка — гэта была жонка. Для яе былі зарэзерваваны асобыя правы. Я сабе не ўяўляў жыцця без яе.

У маім дзённіку было адлюстравана маё жыццё (у тым ліку і сексуальнае) як на далоні. Я дакладна запісваў усе важнейшыя падзеі, пасля часта гартаў свой дзённік, перачытваў. Я любіў быць сам з сабою.

І тут раптам нехта ўварваўся ў маё нутро. Нават жонцы я не дазваляў на такое.

Ну, і выйшла „моцная" размова. Я неяк пераканаў жонку, што той секс не меў шмат супольнага з каханнем, а калі перастану кахаць яе, дык сам пра гэта скажу. Вырашылі, што цяпер ужо будзем у парадку адзін да другога ва ўсіх адносінах.

Прайшло пару месяцаў. Нешта, аднак, змянілася ў нашых адносінах з жонкай. Пачала яна часцей выходзіць „да сяброўак". Так прынамсі заўсёды гаварыла. Аднойчы не вярнулася нанач. Дачушка плакала, я ўсю ноч прастаяў ля акна. Пасля сказала, што была на вёсцы. З кім? — прыпёр я яе да сцяны. Сказала. Быў гэта наш супольны сябра. Але, кажа, між намі нічога не было. Цэлую ноч прасядзелі ў самаходзе. Гутарылі.

Зімою паехала са сваім даўнім знаёмым на лыжы. Я думаў, што яна бярэ з сабой дзіця, але высветлілася, што малую яна пакінула ў маці. Ізноў былі „ціхія дні".

Па тым, якая мая жонка радасная ў апошні час, можна меркаваць, што некага мае. Я не маю намеру за ёю сачыць ці перашкаджаць ёй. Ведаю, што яна зламала нашу ўмову наконт лаяльнасці. Думаю, што цяпер я з поўным правам магу падаць на развод.

**Антон**

Антон! А што, ужо маеш да каго навага прытуліцца? Наколькі мне вядома, у іншым выпадку ты б не спяшаўся разводзіцца. Я думаю, што трэба яшчэ крыху пачакаць. Ты з сексу не рабіў праблемы тады, а твая жонка — цяпер. Вось і стала ўсё на сваё месца. Тое, што калісь было нармальным для цябе, стала нормай і ёй.

А дзённік трэба хаваць добра. Жонкі часамі любяць заглядаць туды, дзе забаронена. Найлепш насіць яго пры сабе. Але як жа тады легчы спаць, выкупацца?..

**СЭРЦАЙКА**